ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S

Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 343
Год выд. XXXVII

Студзень
1988

## РАКЕТНЫЯ БАЗЫ НА БЕЛАРУСІ




У Вашынгтоне 8 сьнежня 1987 г. Прэзыдэнт Рэйган і Генэральны Сакратар Гарбачоў падпісалі ўмову аб поўным выэлімінаваньні ракетаў сярэдняе й карацейшае дальнасьці (з радыюсам лёту ад 500 да 5500 км.). Да тэксту ўмовы дададзены мэмарандум, у якім абедзьве звышдзяржавы кажуць, колькі ў кожнае зь іх ракетаў, аб якіх яны дамовіліся, ды дзе тыя ракеты разьмешчаныя. Абмен гэткай інфармацыяй патрэбны, каб магчы сачыць працэс дэмантаваньня й зьнішчэньня ракетаў, што мае быць праведзенае на працягу трох гадоў пасьля таго як умова будзе ратыфікаваная (як мяркуюць, недзе ў першай палавіне сёлетняга году).

З мэмарандуму (тэкст якога дастала рэдакцыя «Беларуса») відаць, што ладны лік савецкіх ракетаў сярэдняе дальнасьці (гэтак званых СС-20, савецкі тэрміні — РСД-10, кожная з трыма ядзернымі баягалоўкамі) стаіць на Беларусі. З усіх 470 разьмешчаных ракетаў гэтага тыпу 151 знаходзіцца ў межах Беларускай ССР на 20 ракетных базах. У мэмарандуме пададзены дакладныя каардынаты ракетных базаў ды колькасьць ракетаў на кожнай зь іх. Ракетныя базы знаходзяцца каля наступных мясцовасьцяў:

| *Назоў мясцовасьці* | *Лік ракетаў сярэдн. дальн.* |
|---|---|
| 1. Паставы (Віц. вобл.) | 9 |
| 2. Ветрына (Віц. в.) | 9 |
| 3. Полацак (Віц. в) | 9 |
| 4. Смаргоні (Гор. в.) | 9 |
| 5. Смаргоні (Гор. в.) | 9 |
| 6. Ліда (Гор. в.) | 9 |
| 7. Гезгалы (Гор. в.) | 6 |
| 8. Слонім (Гор. в.) | 9 |
| 9. Ружаны (Бер. в.) | 6 |
| 10. Засімовічы (Бер. в.) | 6 |
| 11. Мазыр (Гом. в.) | 9 |
| 12. Петрыкаў (Гом. в.) | 6 |
| 13. Жыткавічы (Гом. в.) | 6 |
| 14. Рэчыца (Гом. в.) | 6 |
| 15. Слуцак (Менск. в.) | 9 |
| 16. Маларыта (Бер. в.) | 5 |
| 17. Пінск (Бер. в.) | 5 |
| 18. Паставы (Віц. в.) | 2 |
| 19. Гезгалы (Гор. в.) | 2 |
| 20. Мазыр (Гом. в.) | 2 |
| На пяцёх апошніх базах налічваецца таксама 18 трэнінгавых ракетаў СС-20 | 18 |
| | 151 |

Базы ракетаў карацейшай дальнасьці:

| | |
|---|---|
| 1. Лапічы (Маг. в.) | 9 |
| 2. Станькава (Мен. в.) | 40 |
| 3. Цэль (?) (Мен. в.) | 26 |
| 4. Слабодка (Бер. в.) | 26 |
| На ўсіх чатырох базах знаходзіцца таксама 41 трэнінгавая ракета | 41 |
| | 141 |

Каля мясцовасьці Бронная Гара ў Берасьцейскай вобласьці, паводле мэмарандуму, стаіць ракетны склад на 170 ракетаў, каля якога разьмешчаныя 3 ракеты карацейшай дальнасьці. Гэткім чынам, усіх ракетаў карацейшай дальнасьці налічваецца 145.

У тым-жа мэмарандуме названае і іншае ракетнае абсталяваньне, што разьмешчанае на ракетных базах, пералічаных вышэй. Гэтак, прыкладам, каля Маларыты стаяць 6 запускных уладжаньняў і 14 ракетных транспартэраў, каля Пінску — 5 запускных уладжаньняў і 13 ракетных транспартэраў ды г.д.

Злучаныя Штаты й Савецкі Саюз дамовіліся, што дэмантаваньне й нішчэньне ракетаў будзе адбывацца на працягу трох гадоў пры самым строгім наглядзе аднаго боку другім, зь інспэкцыяй на месцы. Інспэктаваньне на месцы будзе працягвацца пасьля прынямся на працягу 10 гадоў.

Паводле мэмарандуму, Злучаныя Штаты маюць разьмешчаных ракетаў сярэдняе дальнасьці 429, Савецкі Саюз — 470 (зь іх 151 стаіць у БССР), неразьмешчаных ракетаў сярэдняе дальнасьці ЗША маюць 260, СССР — 356. Усіх ракетаў сярэдняе дальнасьці ў Амэрыкі **689,** у Савецкага Саюзу **826.**

У катэгорыі ракетаў карацейшай дальнасьці ЗША ня маюць разьмешчаных ракетаў, а неразьмешчаных маюць **170.** Савецкі Саюз мае разьмешчаных 387 (зь іх 141 на Беларусі) і неразьмешчаных 539, усіх разам **926.**

Трэба мець на ўвазе, што абодвы бакі дамовіліся толькі аб ракетах **наземнага** (а ня морскага разьмяшчэньня).

Прэзыдэнт Рэйган, выступаючы 14 сьнежня летась перад аўдыторыяй Цэнтру Вывучэньня Стратэгіі й Міжнародных Справаў, сказаў, што падпісаньне пагадненьня аб ракетах сярэдняе й карацейшае дальнасьці адновіць балянс сілаў, які існаваў да 1977 году, калі Савецкі Саюз пачаў разьмяшчаць свае ракеты СС-20. Значыцца, нічога Саветы сваім разьмяшчэньнем ракетаў не дасягнулі — дамагліся толькі таго, што НАТО ў адказ разьмясьціла свае ракеты (пэршынгі- два й крылатыя) ды змусіла гэтым Маскву вярнуцца да status quo ante.

Па вашынгтонскай сустрэчы ўжо Гарбачоў сказаў, што савецкія грамадзяне пішуць да яго лісты й пытаюцца, чаму Савецкі Саюз павінен ліквідаваць больш ракетна-ядзернае зброі, як Злучаныя Штаты Амэрыкі. На добры лад, людзі павінны былі-б пытацца: навошта Масква панабудоўвала аж нагэтулькі больш зброі за Амэрыку — коштам жыцьцёвага ўзроўню свайго жыхарства.



*Упярэшыню апублікаваны ў савецкім друку («Правда», 17.XII.87), і ў друку наагул, здымак ракеты РСД-10 (у тэрміналёгіі НАТО — СС-20); «вялізарны мутна-зялёны какон з тупой поўсфэрай, ускладзены на сьпіну магутнага ракетавозу» («Правда»).*

## ДА ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

У 1988 годзе спаўняецца 1000 гадоў ад часу, калі кіеўскі вялікі князь Уладзімер прыняў хрысьціянства для сябе й сваіх падданых. Хрысьціянства ў Кіеўскай Русі сталася дзяржаўнай рэлігіяй. Наколькі гэты акт датычыўся да Полацкага ды іншых княстваў беларускіх земляў, застаецца пытаньнем дыскусійным. Бясспрэчна толькі, што з часам хрысьціянства пашырылася й на Беларусь, хоць не абавязкова толькі з Украіны, ды сталася паважным фактарам прагрэсу. Паводле Беларускае Савецкае Энцыклапэдыі, хрысьціянства пранікла на тэрыторыю Беларусі ў X-м стагодзьдзі. Беларуская гісторыя аднак ня ведае нейкага аднаго драматычнага акту масавага хрышчэньня, наводле хрышчэньня ў 988 г. кіеўлянаў у Дняпры ды яголным прытоку Пачайні. Тым ня менш, мы адзначаем 1000-годзьдзе хрышчэньня Русі, бо гэтая гістарычная падзея мела вялізарны ўплыў на ход разьвіцьця Беларусі — часткава праз палітычныя ўплывы Кіева, а яшчэ больш, дзякуючы прагрэсыўнаму характару новага вучэньня.

Уплыў хрысьціянства на гісторыю Беларусі, асабліва на культуру — архітэктуру, пісьменства, мастацтва, а праз гэта — на мараль, звычаі, традыцыі, — можна навочна прасачыць, прыкладам, па кнізе «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. I, АН БССР, Менск, 1968). Якія ілюстрацыі ў гэтай кнізе да разьдзелу «Літаратура старажытнай Русі»? — Сафійскі сабор у Полацку (XI ст). Спаса-Еўфрасіньнеўская царква ў Полацку (XII ст.). Мала-Мажэйкаўская царква (XVI ст.). Усе тры ілюстрацыі — а больш ніякіх іншых у кнізе ў гэтым разьдзеле няма — бязь лішняга аналізу паказваюць, наколькі цэнтральнай была роля хрысьціянства, і, пэўна-ж, ня толькі ў гісторыі літаратуры, асьветы, кнігавыдавецкае справы, а і ў шмат якіх сфэрах жыцьця народу, у тым ліку ў галіне матар'яльнага быту, эканомікі дый палітыкі.

Пра шмат якія з гэтых аспэктаў будзе весьціся гутарка на старонках нашае газэты на працягу цэлага сёлетняга юбілейнага году.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *«БЕЛАРУС» У 1988 ГОДЗЕ*

На 37-м годзе свайго выхаду, у 1988 годзе, газэта «Беларус» будзе, спадзяёмся, выходзіць рэгулярна, дзякуючы вашаму, Паважаныя Чытачы й ахвярадаўцы, фінансаваму падтрыманьню ды супрацоўніцтву. «Беларус», як і дасюль, будзе імкнуцца адлюстроўваць як мага шырэй і дакладней беларускае жыцьцё ў дыяспары й на Бацькаўшчыне.

Мы горача заклікаем нашых прыхільнікаў не паслабляць лучнасьці з намі. Прысылайце хроніку, допісы, прэсавыя выразкі. Летась у «Беларусе» былі зьмешчаныя матар'ялы 48-х аўтараў. Гэта паказвае на ладны лік супрацоўнікаў. Чым шырэйшае кола дапісчыкаў, тым цікавейшая газэта. Рэдакцыя, нажаль, ня можа адказваць на кожны атрыманы ліст ці допіс, але яна шчыра ўдзячная за кожную высланую вамі карэспандэнцыю.

Хоць мы й раськіданыя геаграфічна, усе мы жывём тым самым — думкамі пра Беларусь ды ейную й нашу супольную будучыню. Трымаючыся разам праз свой друкаваны орган, мы маем гэтак патрэбнае нам адчуваньне злучанасьці ў адну вялікую сям'ю, пачуцьцё прыналежнасьці да высакароднае справы служэньня свайму Народу.

Сваім выхадам газэта «Беларус» трымае на духу й тых, хто хоць і ня мае магчымасьці чытаць яе рэгулярна, але ведае пра ейны выхад ды ейную абарону правоў чалавека на Беларусі й беларускіх нацыянальных правоў.

**Выдавецтва «Беларус»**

# ЧАТЫРЫ ЮБІЛЕІ—АДНО ЗНАЧАНЬНЕ

**1588 — 1838 — 1863 — 1918**

Сярод юбілеяў сёлетняга году тры маюць асабліва значаньне: выданьне чатырыста гадоў таму трэйцяе рэдакцыі Статуту Вялікага Княства Літоўскага, народзіны 150 гадоў таму Кастуся Каліноўскага й 125-я ўгодкі, ачольванага ім паўстаньня, ды абвешчаньне 70 гадоў таму незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Гэтыя чатыры храналягічна далёкія адна ад адная падзеі спалучаныя міжсобку ды спалучаныя з нашымі днямі адным супольным элемэнтам — цэнтральнаю роляю мовы ў нацыянальным існаваньні.

Падканцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега ў прадмове да Статуту ВКЛ чатырыста гадоў таму пісаў: «А если которому народу встыд прав своих не умети, поготово нам, которые не обчым якым языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем». Словы Сапегі красамоўна сьветчаць аб афіцыйным статусе беларускае мовы, якою былі выкладзеныя "власныя" правы ў сваёй "власнай" дзяржаве. Савецкая гістарыяграфія й прапаганда фальсыфікуюць гэты факт або праходзяць моўчкі ля яго, каб не ставралася кантрасту паміж дзяржаўным статусам беларускае мовы ў ВКЛ і трыманьнем гэтае мовы на задворках расейшчыны ў Беларускай ССР, дзе нават калгасьнік ня можа мець свае рэспубліканскае газэты ў роднай мове.

Кастусь Каліноўскі ў чацьвертым нумары «Мужыцкае Праўды» пісаў: «У нас, дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля». Школы БССР — дзіцячыя садкі, пачатковыя, сярэднія, вышэйшыя — сталіся камбінатамі пераробляньня Беларусаў у «маскалёў». Сучасная Беларусь, улады якое хваляцца усеагульнасьцяй асьветы, стаецца ўсё больш краем людзей, няпісьменных у дачыненьні да свае нацыянальнае мовы. Засьмечанасьць-жа беларускае мовы шмат якіх бээсэсэраўскіх публікацыяў дайшла да эпідэмічных памераў, пра што пачынаюць усё больш гаварыць сьмялейшыя беларускія пісьменьнікі й публіцысты.

Вось-жа сёньня, калі інтэлігенцыя падсавецкае Беларусі ў фармальным звароце да вярхоўнага лідэра кампартыі Савецкага Саюзу заяўляе, што беларускі народ стаіць над прорвай «духовага выміраньня» (ліст 28-х), ідэя незалежнасьці Беларусі гучыць як альтэрнатыва да статусу савецкае рэспублікі, у якой беларускі народ ня мае самага элемэнтарнага — умоваў для нармальнага развіцьця нацыянальнае культуры, права на родную мову ўва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця.

Беларуская мова ад часоў Францішка Скарыны й Статуту ВКЛ да часу сёньняшняе абароны яе калектыўнымі лістамі ў Маскву прайшла цярністы складаны шлях. Але на кожным этапе ейнае гісторыі — і тады, калі яна была мовай дзяржаўных канцылярыяў, і тады, калі яе афіцыйна забаранялі, і цяпер, калі яе фактычна трымаюць на русыфікацыйнай прывязі, — беларуская мова была паказальнікам дачыненьня ўлады да народу. Па мове пазнаеш уладу: калі ўлада свая, дык і мова свая, і наадварот: калі мова чужая, дык і ўлада чужая.

Чатыры сёлетнія вялікія юбілеі дапамогуць нам усьведаміць гэтую ўзаемасувязь мовы з уладаю ды ўлады з моваю.

## АМЭРЫКАНСКІЯ ІНСПЭКТАРЫ НА БЕЛАРУСІ

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» падала 17 сьнежня летась, што васьмёх амэрыканскіх урадаўцаў паехалі ў Савецкі Саюз, каб правесьці там інспэкцыю ў сувязі з абвінавачаньнем у парушэньні ўмовы 1972 году аб антыбалістычных ракетах, якое Вашынгтон выставіў Маскве. Інспэктары наведалі мясцовасьць каля Гомелю ў Беларусі, дзе былі выкрытыя амэрыканскімі спадарожнікамі Зямлі два радарныя ўладжаньні, наяўнасьць якіх, паводля заявы Белага Дому, парушае ўмову 1972 году. Умова гэная дазваляе мець толькі адно антыракетнае радарнае ўладжаньне. Гэткае ўладжаньне пабуданае каля Масквы.

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

**(Пра сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Саўт-Рывэры гл. у «Беларусе» № 340)**

**Ад Рэдакцыі:** Каб зьмясьціць у газэце максымум матар'ялаў, хроніку падаём крыху скарочанай, пакідаючы аднак асноўнае.

### СЫДНЭЙ (АЎСТРАЛІЯ)

Тут сьвяткаваньне 67-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну адбылося ў нядзелю 29 лістапада. Пасьля літургіі ў Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве сп.сп. К. Алехна і М. Антух расказалі вернікам пра Дзень Гэрояў Беларусі, паясьніўшы, чаму гэты Дзень сьвяткуецца якраз у канцы лістапада. Тады даўгагадовы прыяцель Беларусаў а. Вініямін адслужыў паніхіду па дзеячох і ваяках беларускага народу.

Акадэмія адбылася ў Беларускім культурна-грамадзкім клюбе Файрфілд. Старшыня клюбу М. Лужынскі кароткім словам адкрыў урачыстасьць. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць памерлых. У цікавым дакладзе сп. М. Зуй гаварыў пра Слуцкую абарону БНР і далейшае змаганьне Беларусаў за незалежнасьць. Сп. сп. Я. Гавенчык і А. Смаль прадэклямавалі патрыятычныя вершы. Нацыянальным гімнам закончылася афіцыяльная частка.

Адбыўся супольны, багаты й прыемны, абед, за зрыхтаваньне якога належыцца падзяка жаноцкаму камітэту: стыршыні Надзі Лужынскай ды спням Лізе Грыцай-Бакуновіч, Олі Нарушэвіч, Валі Антух, Рэні Зуй, Олі Бакуновіч і Мані Супрунчык.

Заўважаецца ў нас даўно ўжо адзін недахоп — нястача моладзі на нашых сьвятах, а безь яе, якая наша будучыня?

**М.**

### ПЭРТ (АЎСТРАЛІЯ)

Сьвяткаваньне, на прапанову сакратара Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі сп. Алекса Мароза малодшага, адбылося 28 лістапада ў ягоным памешканьні. Сабралася, як на нашую расьцярушанасьць у гэтым найбольшым штаце Аўстраліі, вялікая колькасьць суродзічаў. Спасярод іх найбольш выдзялялася моладзь, якая нарадзілася ў Аўстраліі ды мае жаданьне ведаць мінуўшчыну бацькоў і дзядоў, каб трымацца сваіх каранёў. Гэтая акалічнасьць напаўняла старэйшых, шэрагі якіх штагоду радзеюць, гонарам і прыемным пачуцьцём.

Адкрыў сьвяткаваньне стыршыня БАЎЗА сп. Міхась Раецкі малодшы. Вітаючы прысутных і дзякуючы ім за прыбыцьцё (некаторыя прыехалі за больш як 500 кілямэтраў), старшыня выказаў задаваленьне з таго, што моладзь не парывае лучнасьці з бацькаўскай спадчынай ды што колькасьць зацікаўленых усё збольшваецца.

Урачыстасьць пачалася беларускім і аўстралійскім гімнамі. Было прачытанае прынагоднае прывітаньне ад старшыні Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі сп. М. Лужынскага. Сп. А. Мароз старэйшы прачытаў прозьвішчы адыйшоўшых у вечнасьць сяброў БАЎЗА, памяць якіх была ўшанаваная хвілінай маўчаньня.

Рэфэрат паангельску прачытаў старшыня БАЎЗА, падкрэсьліўшы важнасьць Слуцкага чыну для моладзі. Пабеларуску чытаў рэфэрат Р. М. на тэму змаганьня Беларусаў за сваю дзяржаўнасьць, ідэя якое была стрыжнём беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Сьвяткаваньне закончылася супольным пачастункам, за зрыхтаваньне якога належыцца шчырая падзяка сп. А. Марозу малодшаму, сп-ням Марыі Мароз і Сьвятлане Мастэляж, сп-ні Зосі Ёлаб і дачцы Марыльцы, сп-ні Маргарэце Раеўскай ды ўсім сяброўкам БАЎЗА.

**Сябра ўдзельнік**

### МЭЛЬБУРН (АЎСТРАЛІЯ)

Угодкі Слуцкага змаганьня былі адзначаныя ў нядзелю 29 лістапада. Па багаслужбе, літургіі й паніхідзе, адслужаных у царкве БАПЦ а. А. Кулакоўскім, адбылася ў Беларускім Доме акадэмія. Удзельнікаў вітаў сп. У. Сідлярэвіч, старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Мэльбурне. Кароткі рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. П. Гуз, падкрэсьліўшы вялікі ўдзел сялянства ў змаганьні з маскоўскім акупантам. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць усіх змагароў за Беларусь.

Сп. В. Шнэк расказаў пра канфэрэнцыю ў Тайпэі Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі, у якой ён зь дзьвюма дочкамі браў удзел. Прыгэтым ён падзякаваў усім, хто дапамог фінансава ўзяць удзел у гэтай важнай канфэрэнцыі.

У мастацкай частцы чыталі вершы: сп. М. Скабей, сп-ня В. Шэйпак, сп. П. Гуз і сп-ня Н. Груша.

Урачыстасьць скончылася супольным адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Супольны пачастунак даў нагоду пагутарыць ды адвесьці душу пяяньнем улюбёных беларускіх песьняў.

Быў праведзены збор грошай на газэту «Беларус» ды на беларускую радыяпраграму ў Пэрце ў Зах. Аўстраліі. Як заўсёды пры падобных нагодах, прадаваліся беларускія выданьні.

Шкада толькі, што ўдзельнікамі былі амаль толькі старэйшыя асобы.

**М. Н.**

### АДЭЛЯЙДА (АЎСТРАЛІЯ)

Тут сьвята гэрояў было зладжанае 29 лістапада Беларускім Аб'еднаньнем у Паўдзённай Аўстраліі ды беларускай парафіяй. Пасьля літургіі й паніхіды, адслужаных а. Міхасём, у прыцаркоўнай залі адбылася акадэмія. Адчыніў яе сп. У. Станкевіч. Хор прапяяў гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ды жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў».

Старшыня Беларускага Аб'еднаньня сп. Мікола Колес, прывітаўшы ўсіх з Днём Гэрояў, зрабіў зьмястоўны даклад на тэму дня ў беларускай і ангельскай мовах. Маладая й актыўная Беларуска сп-чна Наташа Якша, апранутая ў нацыянальны касьцюм, якая вяла акадэмію, падзякавала сп. Колесу за ягоны рэфэрат.

Па супольным абедзе, на якім ежы было ўдосталь і які прайшоў у прыемнай атмасфэры, адбыўся канцэрт. Хор прапяяў колькі народных песень, а наш выдатны аматар сп. В. Зелянеўскі выступіў з гумарыстычнымі апавяданьнямі. Выканаўцы праграмы былі ўзнагароджаныя бурнымі воплескамі.

**Янка Яр**

## ДЗЯКУЕМ ЗА ВЫРАЗКІ

За прэсавыя выразкі ды іншыя матар'ялы, выкарыстаныя ў газэце, дзякуем: Я. Міхалюку, В. Махнач, М. Раеўскаму, А. Міцкевічу, М. Казьлякоўскаму, М. Нікану, Я. Юхнаўцу, А. Лашуку, К. Акулу.

**Рэдакцыя «Беларуса».**

# УГОДКІ...

## ТАРОНТА (КАНАДА)

Сьвяткаваньне Дня Гэрояў адбылося тут 29 лістапада й было спалучанае із 125-мі ўгодкамі газэты «Мужыцкая Праўда». Урачыстасьць была наладжаная стараньнем галоўнай управы Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Старанна зрыхтаваная ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру выстаўка тэкстаў «Мужыцкае Праўды», «Лістоў з-пад шыбеніцы», партрэтаў Кастуся Каліноўскага, партрэтаў дзеячоў беларускае культуры, грамадзкіх і палітычных дзеячоў, пачынаючы ад Рагвалода й Рагнеды, наглядна гаварыла аб пашане нашых Гэрояў-змагароў, нашай гісторыі, нашых каранёў.

У часе багаслужбы варту са сьцягамі — беларускім і канадыйскім — трымалі нашыя вэтэраны. Пасьля застольнай бяседы, падрыхтаванай сп-нямі Марыяй Ганько ды Лідай Цялеш, адбылася акадэмія, якую вёў сп. Алесь Шаршуновіч. Тон сходу надала супольна адсьпяваная песьня «Сьпі пад курганам гэрояў...». Вітаў прысутных Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч.

Старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала даклад на тэму «'Мужыцкая Праўда' і Кастусь Каліноўскі».

Якім геніем і волатам духа мусіў быць 23-24-гадовы юнак Кастусь Каліноўскі! Выдаваная ім першая беларуская газэта «Мужыцкая Праўда» адлюстроўвала праграму паўстаньня: зраўнаньне ў правах усіх людзей краю, наданьне селяніну статусу грамадзяніна й палепшаньне ягонага матар'яльнага быту, скасаваньне прывілеяў паноў і шляхты. Урад краю мае дбаць пра дабро ўсіх людзей, суды маюць сьцерагчы справядлівасьці, школы маюць навучаць, як жыць карысна й справядліва, а ня вучыць толькі «...каб ты знаў чытаць памаскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабілі на маскаля».

Масква здушыла паўстаньне, а 22 сакавіка 1864 г. ягоны кіраўнік Кастусь Каліноўскі быў павешаны на Лукішскім пляцы ў Вільні.

Хоць Каліноўскі пражыў толькі 26 гадоў, ён зрабіў вялізарны ўплыў на разьвіцьцё беларускага нацыянальнавызвольнага руху. Ягоны заклік да змаганьня за «вольнасьць» пачуюць случчакі ды пойдуць бараніць Беларускую Народную Рэспубліку, пойдуць «паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!»

Даклад аб Слуцкім збройным чыне прачытаў старшыня Таронтаўскага аддзелу ЗБК сп. Мікола Ганько.

Сымбалічны сьпіс Гэрояў Беларусі, адчытаны пісьменнікам Кастусём Акулам, і супольна адсьпяваны нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» закончылі ўрачыстасьць.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## ТАРОНТА (КАНАДА)

У парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Таронта дзень угодкаў Слуцкае абароны БНР пачаўся ўрачыстай літургіяй, адслужанай настаяцелем а. Паўлам Вялікім у суслужэньні з а. Віталем Сагайдакіўскім, ды паніхідай па змагарох-гэроях.

Пасьля багаслужбы адбылося ўрачыстае паседжаньне, якое адкрыў і вёў сп. М. Кухарчык. Прынагодны даклад прачытала сп-ня В. Пашкевіч. Дакладчыца выказала думку, што ахвярная кроў случчакоў-гэрояў усё-ж пралілася не дарма. Не дарма таму, што іхнае збройнае выступленьне на фоне агульнага нацыянальнага ўздыму на Беларусі ў 1917-20 г.г. канчаткова пераканала захопнікаў аб наважанасьці беларускага народу ў ягоным імкненьні да волі й незалежнасьці. Бальшавікі былі змушаныя стварыць, няхай сабе й фікцыйную, беларускую дзяржаву, у якой, нягледзячы на шматгадовы тэрор, нішчэньне беларускае культуры й ейных дзеячоў, вырасьлі кадры вучоных, пісьменьнікаў і паэтаў, кадры беларускіх патрыётаў.

І цяпер, калі ў Саветах уведзеная «галоснасьць», беларускія патрыёты ў прэсе і на розных паседжаньнях гавораць аб неабходнасьці адбудовы беларускага школьніцтва, пішуць аб хвальшаваньні беларускае гісторыі і ў сувязі з гэтым дамагаюцца выданьня новых падручнікаў гісторыі для школаў. Крытыкуецца няпісьменнасьць, калечаньне беларускае мовы ў савецкай прэсе, радыё ды тэатры.

Урачыстасьць закончылася агульным сьпевам «Сьпі пад курганам гэрояў» ды супольным абедам.

**В. П.**

## ПАРЫЖ (ФРАНЦЫЯ)

У нядзелю 29-га лістапада больш за 20 асобаў сабраліся на багаслужбу, якую адслужыў Апостальскі Візытатар а. Аляксандар Надсон. Ён разоў чатыры-пяць на год прабывае сюды зь Лёндану, і мы маем прыемнасьць дзяліцца зь ім весткамі зь беларускага жыцьця.

У часе багаслужбы а. Аляксандар успамінаў пра вялікіх Беларусаў-парыжанаў, што адыйшлі ад нас у вечнасьць дзесяць гадоў таму: а. Леў Гарошка памёр у ліпені, а сп. Уладзімер Шыманец у жніўні 1977 году.

Па багаслужбе адбылося ў памешканьні душпастырства на 65 rue des Gravilliers, прыгожа пераробленым, сустрэча са сьціплым пачастункам (дзякуючы жанчынам, Беларускам і Француржанкам). Колькі прыемных гадзінаў прайшлі ў гутарках на розныя тэмы ды ўспамінах пра а. Гарошку й сп. Шыманца. Кожны з нас зразумеў і адчуваў, што любасьць да свайго краю была галоўным рухавіком у іхнай высакароднай і адданай дзейнасьці ў нашай грамадзе. Пра гэткіх багатых духам людзей нам нельга забывацца.

Пад вечар, калі ўсе пачалі разьяжджацца дамоў, мы дзякавалі тым, хто прыехаў на нашую ўрачыстасьць з правінцыі, з Ардэнаў, ды нават і з Бэльгіі.

**М. Смага**

## ЛЁНДАН (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Сьвяткаваньне, арганізаванае Лёнданскім аддзелам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, адбылося ў суботу 28 лістапада ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны.

Адчыніў акадэмію сп. Я. Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Прывітаўшы ўдзельнікаў, сярод якіх былі й госьці зь Беласточчыны, зачытаў прывітальныя лісты ад сп. Д. Касмовіча, кіраўніка Беларускага Вызвольнага Фронту, ды сп. Я. Пятроўскага з Амэрыкі.

З рэфэратам выступіў сп. А. Ражанец, прысьвяцíўшы шмат увагі пэрыяду пасьля Слуцкага змаганьня. Дакладчык гаварыў пра беларускіх дзеячоў як з БНР, так і з БССР (Чарвякоў, Жылуновіч, Галадзед, Лёсік, Б. Тарашкевіч, Ластоўскі, Цьвікевіч, Ігнатоўскі, Луцкевіч, Рак-Міхайлоўскі ды іншыя), якія загінулі за часамі сталінскага тэрору. Хвілінай цішыні была ўшанавана памяць усіх тых, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь.

Кароткім успамінам падзяліўся случчак сп. Хв. Дзімітраў, які дакладна памятае тыя падзеі.

Быў прачытаны верш сп. Ю. Весялкоўскага, прысьвечаны случчакам, верш доўгі, глыбока прадуманы гістарычна, шырока ахопліваў розныя мамэнты змаганьня.

Адсьпяваньнем жалобнай песьні «Сьпі пад курганам гэрояў» акадэмія была закончана.

Зьбіраліся ахвяры на газэту «Беларус».

Сьціплым пачастункам завяршыўся сьвяточны вечар.

**А. Здановіч**

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

### Палітычны мітынг у Менску



*Помнік Янку Купалу, каля якога адбыўся мітынг.*

Як мы падалі ўжо ў папярэднім нумары «Беларуса», у Менску ля помніка Янку Купалу адбыўся 1-га лістапада летась палітычны мітынг, на які войстра зарэагавала газэта «Советская Белоруссия», але — паказальна для гарбачоўскае «галоснасьці»! — ніякі іншы орган рэспубліканскага друку не заікнуўся ні словам пра гэтую падзею. «Сов. Белоруссия» (за 17-га й 18-га лістапада) прысьвяціла мітынгу вялікі матар'ял («палемічныя нататкі») свайго карэспандэнта А. Майсені. «Нататкі» апублікаваныя пад заг. "Меркай памяці».

На мітынгу, які Майсеня называе «сустрэчай», было шмат моладзі, інтэлігенцыі, усіх каля 200 асобаў. Сустрэча адбылася на адзначэньне памяці продкаў у духу традыцыйнага беларускага сьвята «Дзяды». Урачыстасьць пачалася дэклямацыяй вершу Янкі Купалы: «Сьпеце ўсе тыя, што праўды па сьвеце шукалі, і, не здабыўшы, ў дамоўкі бяз часу зыйшлі...». Купалаўскія словы, піша Майсеня, «задалі агульны настрой, агульную танальнасьць дня памяці, які разгортаўся далей у выступленьні пісьменьніка (прозьвішча якога аднак Майсеня не назваў), «які расказаў пра асноўныя этапы беларускае гісторыі». Там-жа маладыя паэты з аб'яднаньня «Тутэйшыя» дэклямавалі свае вершы.

«Як удары хаўтурнага звону, — піша карэспандэнт «Советской Белоруссии», — разрывалі восеньскую цішыню імёны дзясяткаў бязьвінных людзей — дзеячоў беларускае савецкае навукі й культуры, кіраўнікоў партыі й дзяржавы, абылганых жорсткімі чуткамі й загубленых цёмнымі днямі разгулу рэпрэсіяў неразборлівай 'караючай рукой'».

«Але раптам, — піша далей Майсеня, — у выступленьні аднаго з аратараў, што прадстаўляў сабой аб'яднаньне 'Тутэйшыя', прагучэла, як вераломны выстрал, слова 'генацыд' у дачыненьні да рэпрэсіяў 30-х гадоў на Беларусі».

І тут Майсеня, не назваўшы прозьвішча таго прамоўцы, узяўся бічаваць яго за тое, што ён не зазірнуў у савецкі слоўнік, каб даведацца, што значыць слова «генацыд». У савецкім-жа энцыкляпэдычным слоўніку сказана, нагадвае Майсеня, што «генацыд — адно з найцяжэйшых злачынстваў супраць чалавецтва, зьнішчаньне паасобных групаў жыхарства паводля расавых, нацыянальных ці рэлігійных прыкметаў». Майсеня ня думае, каб знайшліся на Беларусі «сумленныя людзі, якія паважна сталі-б цьвердзіць, што ў дачыненьні да беларускага народу ў 30-х гадох праводзілася палітыка генацыду». Выходзіць, што на мітынгу былі й «нясумленныя» людзі, бо вось Майсеня піша: «На вялікі жаль, знайшліся сярод удзельнікаў мерапрыёмства людзі, якія напорна паўтаралі гэты тэрмін» («генацыд»). Слухачы, відаць, згаджаліся з прамоўцам, бо Майсеня нічога не сказаў, ці хто-небудзь на мітынгу пратэставаў супраць азначэньня сталінскае палітыкі як генацыднае.

У духу прамоваў удзельнікі мітынгу прынялі ліст-зварот, у якім ёсьць «дамаганьне публічна назваць прозьвішчы ня толькі тых, хто пацярпеў гадамі рэпрэсіяў, але ўсіх тых, хто 30-мі гадамі рабіў 'злачынствы'. Як заяўлена, 'у імя гістарычнае справядлівасьці'».

У лісьце-звароце, зазначае Майсеня, «няма месца для сумлеву: адшукаць

*(Заканчэньне на 4-й б.)*

> ***«Заўсёды браджэньне ў розумах людзей пачынаецца з браджэньня ў розумах інтэлігенцыі. Гэта тыя самыя дрожджы ў любым грамадзтве, якія выклікаюць новыя працэсы».*** — М. Гарбачоў на сустрэчы ў Вашынгтоне з прадстаўнікамі амэрыканскае грамадзкасьці 8 сьнежня 1987 г. («Зьвязда», 10.XII.87)

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

усіх тых, хто браў удзел у рэпрэсіях 30-х гадоў і пагалоўна абвесьціць іх 'злачынцамі' з усімі вынікамі, што адсюль выплываюць».

Далей Майсеня ўзяўся аспрэчваць гэтае дамаганьне-зьвінавачаньне, аргумэнтуючы тым, што шмат хто з гэных сталінскіх памагатых «шчыра верыў», што іхныя дзеяньні — нішто іншае, як трыюмф правасудздзя ад імя ўсяго працоўнага народу». «Няпроста сёньня, па дзесяцігодзьдзях, — піша літасьцівы савецкі журналіст, — вяршыць пэрсанальны суд». Як над «калябарантамі» пад нямецкай акупацыяй, дык суд вяршыць проста, мерцьвяком нават спакою няма, а як над сталінскімі, дык няпроста.

Майсеня са скуры вылузваецца, шукаючы выпраўданьня сталінскім апрычнікам ды іхным памагатым. «Страты мінулага, — піша ён, — не павінны засланяць цудоўных дасягненьняў беларускага народу ў нашыя дні». Але! Гэткіх «дасягненьняў», як ліквідацыя беларускіх школаў, прыкладам, па ўсіх гарадох і мястэчках рэспублікі ды падобных «здабыткаў», пра якія напісалі Гарбачову аўтары двух адкрытых лістоў (прамоўчаных газэтай «Советская Белоруссия» ды ўсімі іншымі рэспубліканскімі органамі друку).

Цікавая дэталь. «Сяго-таго, — піша Майсеня, — ідэя правядзеньня сустрэчы (г. зн. мітынгу — рэд. «Б-са») застала зьнянацку — як-ніяк не санкцыянаваная 'згары', а ініцыятыва, што прыйшла 'зьнізу', і вельмі неадназначнага характару». «Фармальна на правядзеньне гэтага мерапрыёмства ня было дадзена дазволу», паведаміў Майсеня.

Дарэчы, аб'яднаньне маладых пісьменьнікаў «Тутэйшыя» карэспандэнту «Сов. Белоруссии» ня зусім спадабалася сваім назовам. Назоў «Тутэйшыя», піша Майсеня, «уж больно попахивает каким-то местничеством, отгороженностью».

Характарызуючы сустрэчу ля помніка Купалу, Майсеня прызнаў, што яна «ўдалася сваёй шчырасьцяй, сваёй адкрытасьцяй і дабразычлівасьцяй». Прыгэтым карэспандэнт зазначыў, што гэткіх якасьцяў не стае якраз у праводжаньні савецкіх афіцыйных сьвятаў. «Адкуль бярэцца на іх абыякавасьць?» — пытаецца Майсеня, і адказу на гэтае пытаньне не дае.

Майсеня выказаў задаваленьне, што на мітынгу не знайшлі падтрыманьня «інтрыганы», якія агітуюць спадцішка « за вызваленьне беларускага народу», падбухторваюць «неўзмацнелыя розумы й душы».

Мітынг ля помніка на сквэры імя Купалы быў падзеяй спантанічнай. «У часе жывой, наэлектрызаванай дыскусіі, якая адбылася пасьля ўзлажэньня кветак ля падножжа помніка Янкі Купалы, што сымбалізавала сабой пакланеньне памяці ўсіх продкаў, адбыўся ў шмат чым паказальны для атмасфэры сустрэчы выпадак, — расказвае Майсеня. — Няма чаго хаваць, рознай была рэакцыя ўдзельнікаў на імправізаваныя выступленьні — каго слухалі стрымана, зь яўнымі прыкметамі цярплівосьці, кагосьці іншага з затоеным дыханьнем і праводзілі воплескамі, кагосьці агарошвалі зь месца зьедлівымі, але справядлівымі пытаньнямі ды змушалі замоўкнуць. Словам, усялякае было. А тут у гарце аднаго з выступленьняў, якое прагучэла ў расейскай мове, раздаліся незадаволеныя галасы з гушчы натоўпу — няма чаго, бач, прапаганду весьці. Пракрычэлі ды адразу-ж асекліся, прыкусілі языка — не знайшлі падтрыманьня, пустынным голасам пракрычэлі. У прыдачу, тыя, што побач стаялі, дружна асадзілі выскачак — калі ўжо дэмакратыя, дык, калі ласка, слухаць: не згаджаешся, сам выступі, а іншым рота не затыкай. Прадметная навучка тым, — зазначае Майсеня, — хто прыйшоў пацешыць сябе скандалам — маніліся мора сярнічкай запаліць, а выйшаў 'пшык' у лужыне, у якую самі й селі».

Майсеня кажа, што колькі дзён пазьней у гутарцы з адным літаратарам той сказаў яму пра мітынг: «А там-жа былі й падбухторшчыкі, чулі, як яны намагаліся з натоўпу камандаваць, але не ўдалося». І Майсеня падагульніў: «Не з таго Беларусы матар'ялу, які таннымі нацыяналістычнымі ідэямі і лёзунгамі запаліць можна».

## ЦАРЫЗМ І «КУЛЬТУРНЫ ГЕНАЦЫД»

**«Судовая практыка XVII-XVII ст.ст. (у Рэчы Паспалітай) ня ведае прэцэдэнтаў, што сьветчылі-б пра афіцыйную забарону пісаць, друкаваць і, тым больш, гаварыць пабеларуску. Адміністрацыйнае 'права' забараняць беларускую літаратурную мову было ўпяршыню 'вынайдзена' вялікадзяржаўнай бюракратыяй на чалае з царом. Аб'ектыўна гэта быў 'культурны генацыд', які крывадушна 'апраўдваўся' неабходнасьцю захаваць 'палітычнае і літаратурнае адзінства рускага народу'».** («Беларусь», 1987, № 11, б. 25).

Ліквідацыя беларускага школьніцтва ў БССР крывадушна апраўдваецца працэсам гэтак званага «зьбліжэньня й зьліцьця» савецкіх нацыяў.

## «НІВА» ПРА МЕНСКІ МІТЫНГ

З артыкулу газэты «Ніва» (29.XI.87), прысьвечанага аднаўленьню гістарычнае памяці ў беларускім народзе, даведваемся, між іншага, наступнае:

«Мітынг, які адбыўся 1 лістапада г.г. — на дзяды — у менскім парку імя Купалы, быў прысьвечаны памяці забытых нацыянальных гэрояў, ахвяраў шавіністычнай палітыкі самадзяржаўя і ахвяраў сталінскага тэрору. Мітынг быў характэрны тым, што ўдзельнічалі ў ім ня толькі нефармальныя беларускія суполкі («Талака», «Тутэйшыя», «Няміга», «Галіна»), для якіх сама гісторыя сьвядома стала Бацькаўшчынай, але й шырокія слаі насельніцтва, многія зь якога апынуліся тут выпадкова і, мабыць, упяршыню далучыліся да роднае мовы, культуры, гісторыі і адчулі сябе Беларусамі, дзецьмі тае зямлі, на якой жывуць».

## *«ТАЙМС» ПРА ПРАТЭСТ БЕЛАРУСАЎ*

Лёнданская газэта «Таймс» у нумары за 8.XII.87, падаючы аб прыезьдзе савецкага лідэра ў Лёндан і ягоную сустрэчу з Прэм'ерам Маргарэтай Татчэр, зьмясьціла кароткую вестку пра «нацыяналістычны пратэст» на Беларусі. «Таймс», спасылаючыся на газэту «Советская Белоруссия», паведаміў, што на Беларусі адбылася ў лістападзе нацыяналістычная дэманстрацыя, якая ўважаецца за беспрэцэдэнтную.

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР

У Мэльбурне ў Аўстраліі выйшаў «Беларускі праваслаўны Каляндар» на 1988 год у апрацаваньні а. Аляксандра Кулакоўскага, які ўжо больш за 25 гадоў выдае рэгулярна гэткія каляндары.

# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

Згодна з пастановай грамадзкай нарады, што адбылася ў Тароньце 27 верасьня летась, ды пастановы галоўнай управы Згуртаваньня Беларусаў Канады 24 кастрычніка ў паразуменьні із старшынём Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антонам Шукелойцем, **18-я Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі адбудзецца 3, 4 і 5 верасьня 1988 году ў Тароньце, Канада.**

Сустрэча будзе прысьвечана абароне Беларускай Мовы й 400-м угодкам Статуту Вялікага Княства Літоўскага. Адзначаныя будуць і 125-я ўгодкі паўстаньня 1863 году ды 1000-годзьдзе Хрысьціянства ў Беларусі. Плянуецца выстаўка абразоў беларускіх мастакоў Паўночнай Амэрыкі на тэму няшчасьця, спрычыненага Чарнобыльскай атамнай аварыяй у красавіку 1986 году.

Арганізатары Сустрэчы, Згуртаваньне Беларусаў Канады й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, запрашаюць і заклікаюць усіх суродзічаў на 18-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў пульсуючае культурным і палітычным жыцьцём Таронта.

**Старшыня ЗБК**

## ВІТАЕМ СП. АЛЯКСАНДРА СТАГАНОВІЧА

Зь 98-мі ўгодкамі жыцьця, што спаўняюцца 25 студзеня сёлета, шчыра вітаем аднаго з найбольш заслужаных грамадзкіх дзеячоў, былога пасла Польскага сойму, няўтомнага працаўніка на беларускай палітычнай і рэлігійнай ніве, актыўнага й цяпер прыхаджаніна царквы Жыровіцкае Маці Божай БАПЦ у Гайленд-Парку, сябру царкоўнага хору, **сп. Аляксандра Стагановіча** ды зычым яму ў добрым здароўі дачакацца традыцыйна жаданых і недалёкіх ужо 100 гадоў.

**Галоўная й мясцовая ўправы БАЗА**
**Рэдакцыя «Беларуса»**

## ВІТАЕМ СП. МІКОЛУ ПРУСКАГА

З 60-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 1-га студзеня сёлета, вітаем заслужанага грамадзкага й культурнага працаўніка, друкара, рэдактара-выдаўца часапісу «Беларускі Сьвет» **сп. Міколу Прускага** ды зычым яму шмат гадоў здароўя й плённае далейшае дзейнасьці на ніве беларускага друкаванага слова. Жадаем памыснага заканчэньня друкаваньня вялікае кнігі «Скарыніяна».

**Управа БІНіМ**
**Управа БАЗА**

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## СХОД БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ

**Адэляйда, Аўстралія.** — 6-га верасьня 1987 г. адбыўся перавыбарчы сход сяброў беларускай грамады ў Адэляйдзе. Старшыня аб'еднаньня сп. Я. Ролсан адчыніў сход ды ў кароткай справаздачы паінфармаваў сяброў, што было зроблена ўправаю за двухгадовую кадэнцыю. Асаблівую ўвагу ён зьвярнуў на тое, што ў лютым 1988 г. пры дзяржаўным музэі ў Адэляйдзе будзе часова адчыненая сэкцыя Беларуская сацыяльна-гістарычнага музэю, куды трэба даць больш экспанатаў з нашае мінуўшчыны й добра праінфармаваць пра Беларусь і ейнае месца ў Эўропе.

Скарбнік сп. Калесьніковіч зачытаў фінансавую справаздачу, рэвізійная камісія прызнала працу скарбніка і ўправы добрай, і агульны сход даў абсалютарыюм.

З прычыны здароўя Янка Ролсан адмовіўся ад становішча старшыні, а на далейшую двухгадовую кадэнцыю выбраная ўправа ў наступным складзе: старшыня — сп. Мікола Колес, сакратар — сп-ня Яўгеня Юрша, скарбнік — сп. Янка Ролсан, вонкавыя сувязі — сп. Кастусь Станкевіч.

**Янка Яр**

# 600 БЕЛАРУСКІХ РАДЫЯПЕРАДАЧАЎ У СЫДНЭІ

24-га лістапада 1987 г. праз этнічную радыястанцыю 2ЕА (Ethnic Australia) была перададзеная 600-я беларуская праграма. Быў гэта фактычна падвойны юбілей, бо праграма была прысьвечаная 67-м угодкам Слуцкай Абароны БНР.

Першая беларуская радыяпраграма ў Сыднэі была перададзеная 20 ліпеня 1976 году. Ад таго часу рэгулярна працавалі ў радыё А. Качан, А. Каранеўская і М. Лужынскі, а дапамагалі др. О. Качан, др. Я. Малецкі, П. і М. Мілеўскія, А. Василеня. Трэба адзначыць, што наша грамада адразу-ж падтрымала нас маральна ды, пакуль была патрэба аплочваць тэхнікаў і станцыю, — матар'яльна. У тым часе праз этнічнае радыё перадавалі 17 нацыянальнасьцяў, але лік іх увесь час узрастаў, і сёньня станцыя працуе 18 гадзін у суткі сем дзён на тыдзень ды перадае ў 57 мовах сьвету.

Пачатак працы ў радыё быў няпэўны, нясьмелы, бо ніхто з нас ня меў дазнаньня ў гэтай галіне. Аднак памаленьку набралі адвагі, распусьцілі крыльле й праца пайшла нармальным рытмам. Працаваць было лёгка й прыемна, бо ўсе сябры Беларускага Радыёвага Камітэту былі аднадумцы. Паводля вогукаў слухачоў, праграмы нашы былі цікавыя, разнастайныя і на высокім узроўні. Бязумоўна, недаспадобы былі нашыя перадачы савецкаму пасольству, бо мы заўсёды гаварылі праўду, ня выклікаючы антаганізмаў і не завайстраючы дачыненьняў зь ніводнай нацыянальнасьцяй.

Так добра ўсё склалася, што, здавалася-б, нам толькі жыць ды весяліцца. Але раптам — крызіс! 4-га сьнежня 1982 году, раптам, ад удару сэрца памёр Аркадзь Качан, а праз ніяцэлых чатыры месяцы, 30 сакавіка 1983 году, ад рака, — Аўгеня Каранеўская. Громам прыбіты й ашаломлены астаўся адзін Міхась Лужынскі. Надзвычай цяжкі быў гэта пэрыяд, ды хіба перамагло ўсьведамленьне абавязку й пачуцьцё нацыянальнага гонару. Страціўшы шмат калярыту й разнастайнасьці нашыя перадачы, сталіся больш манатоннымі, але дзякаваць Богу яшчэ працягваюцца.

Этнічнае радыё будзе яшчэ існаваць тут у Аўстраліі, але ці будзе ў ім беларуская сэкцыя, гэта вялікі пытальнік. Канечна патрэбная зьмена, а кандыдатаў пакульшто няма.

На заканчэньне хачу сардэчна падзякаваць др. Віктару Сяньківічу зь Гішпаніі за ягоныя скрыпты ды ўсім, хто да мяне піша або служыць парадай, добрым словам. Дзякую Вам, дарагія слухачы — да сустрэчы ў эфіры ў наступны аўторак гэтай самай парой.

**Міхась Лужынскі**

# ДАКЛАД ДР. Б. РАГУЛІ

**Савецкі экспаньсіянізм**

**Лёндан, Ант., Канада.** — Др. Барыс Рагуля, які адначасна із сваёй лекарскай практыкай выкладае мэдычныя дысцыпліны на Вэстэрнскім Унівэрсытэце Канады, быў запрошаны студэнцкай радай гэтага ўнівэрсытэту прачытаць лекцыю на тэму Афганістану й савецкага экспаньсіянізму. Даклад папулярнага прафэсара адбыўся 25 лістапада.

У сваім выступленьні др. Рагуля сказаў, што ў мамэнце акупацыі Афганістану ў сьнежні 1979 г. палітычны курс Крамля ані духам ані літарай ня быў адыйшоўшы ад сталінскае канцэпцыі будаваць сацыялізм у сваёй краіне ды выносіць яго навонкі. Дакладчык правёў гістарычную паралель. Гэтак, як суступкі Гітлеру з боку заходняэўрапейскіх дзяржаваў, пачынаючы ад Мюнхэнскай канфэрэнцыі (1938 г.), заахвоцілі яго да далейшай агрэсіі, гэтак суступкі Сталіну, пачынаючы ад Ялцінскае канфэрэнцыі (1945 г.), заахвоцілі Савецкі Саюз да экспансіі ў Эўропе, Афрыцы, у Караібскім моры (Куба), у Цэнтральнай Амэрыцы (Нікарагва) ды ў Афганістане.

Далей др. Рагуля нагадаў, што Ялцінская канфэрэнцыя была аб'ектам спрэчак паміж гісторыкаў, бальшыня якіх схарактарызавалі яе, як здраду — Захад ахвяраваў свабоду народаў Цэнтральнае Эўропы за згоду Масквы падпісаць умову. Др. Рагуля зацытаваў ліст амэрыканскага міністра замежных справаў з 27.I.1945 г., у якім сказана наступнае: «Мы ведаем, што Сталін хоча моцную й незалежную Польшчу з дэмакратычным урадам і ў добрых дачыненьнях з Савецкім Саюзам і Захадам». Дакладчык зазначыў: як сьмешна выглядае гэтае цьвярджаньне, гледзячы на вынікі Ялцінскае ўмовы і бачачы, што ніводная з краінаў Цэнтральнай Эўропы не атрымала магчымасьці правесьці вольныя выбары.

Гаворачы аб савецкім тэроры ў Афганістане, др. Рагуля прааналізаваў падобны тэрор на Беларусі ў канцы 1920-х і ў 1930-х гадох, а таксама на Ўкраіне, у Прыбалтыцы ды ў іншых падсавецкіх рэспубліках. Ён закончыў даклад, зварачаючыся да аўдыторыі: Мы чуем пра гвалт савецкіх уладаў, забойствы ня толькі паасобных людзей, але генацыд у дачыненьні да цэлых нацыяў, і мы зачыняем вакно, каб ня бачыць, каб ня быць уцягнутымі. Дакуль-жа мы будзем заставацца абыякавымі? Калі лідэры нямецкага нацызму былі пакараныя за злачынствы, зробленыя імі на акупаваных тэрыторыях, у тым ліку й на Беларусі, дык ці-ж дойдзе калі-небудзь да таго, што й злачынцы савецкія, якія на працягу 70 гадоў тварылі генацыд і твораць яго далей у Афганістане, будуць прыцягнутыя да адказнасьці? Адказ на гэтае пытаньне, сказаў др. Рагуля, я пакідаю вам, маладому пакаленьню, якое, магчыма, зробіць свой уплыў на палітыку Заходняга сьвету.

Даклад др. Рагулі выклікаў жвавую дыскусію, бо сярод слухачоў былі студэнты з Афганістану і з Цэнтральнай Амэрыкі, а таксама з Афрыкі ды, пэўна-ж, Канадыйцы рознай палітычнай ахварбоўкі. Былі таксама й студэнты з пракамуністычнымі паглядамі, якія вельмі войстра атакавалі даклад, параўноўваючы савецкія мэтады з мэтадамі амэрыканскага ЦРУ (CIA). На гэта дакладчык адказаў: калі мы паглядзім на ўсе краіны, у якіх па Другой сусьветнай вайне было амэрыканскае войска, усе гэныя краіны маюць цяпер выбарныя дзяржаўныя органы, вольныя выбары, якія праходзяць зусім незалежна ад Амэрыканцаў, а гэткія краі, як Японія, нават стаяць эканамічна, магчыма, лепш як Злучаныя Штаты Амэрыкі.

У ходзе дыскусіі атрымалася ўражаньне, што студэнты ў бальшыні сваёй пагадзіліся з дакладчыкам і пасьля падзякавалі яму шчыра за даклад ды запрасілі на абед, дзе абмен думкамі трываў далей у прыемнай сяброўскай атмасфэры.

Даклады гэткія, бясспрэчна, вельмі карысныя для пашырэньня імя Беларусі.

Як даведваемся, др. Барыс Рагуля запрошаны на даклад-сустрэчу з паслом Нікарагвы ў Канадзе. Нікарагванскі дыплямат будзе гаварыць пра палітыку свайго сандыніцкага рэжыму, актыўна падтрымванага Масквою.

## УГОДКІ А. АЛЯКСАНДРА НАДСОНА

24 лістапада ў касьцёле Сьв. Марыі ў Бэры (Канада) адбылася ў гонар а. Аляксандра Надсона, Апостальскага Візытатара для Беларусаў, сьв. Літургія з нагоды 29-х угодкаў ягонага сьвятарства, а пасьля яе — прыняцьце ў кватэры сп-тва Жук-Грышкевічаў, арганізатараў сьвяткаваньня.

На багаслужбе, якую адпраўлялі два сьвятары, і на прыняцьці, апрача Беларусаў, былі й прыяцелі-Канадыйцы з Бэры.

У часе застольнай бяседы Гаспадыня расказала коратка пра жыцьцё й дзейнасьць а. Надсона, ягоную навуковую, арганізацыйную, выдавецкую й душпастырскую працу.

## ТАСС'АЎСКАЕ ЗАМАЗВАНЬНЕ КРЫВАВАЕ ПЛЯМЫ

**Пра Катынскае злачынства й Ст. Станкевіча**

Паводля выдаванае ў Вільні папольску газэты «Чэрвоны Штандар» (№ 232 за 7.X.87), Станіслаў Станкевіч быў адказны за расстрэл польскіх ахвіцэраў у Катынскім лесе. Пра гэта даведваемся зь лёнданскае польскае газэты «Дзеньнік Польскі і Дзеньнік Жолнежа» (№ 46 за 14.XI.87). Супрацоўніца гэтае газэты Крыстына Гжыбоўская, у арт. пад заг. «'Белыя плямы' гісторыі найлепш вылізаць», пераказвае зьмест пісаніны ў «Чэрвоным Штандары» карэспандэнта ТАСС Ул. Мацяша пра ўдзел Станкевіча (імя не названае) «у зьверскіх забойствах польскіх ахвіцэраў у лесе пад Менскам», саркастычна зазначае: «І ўсё ясна. Польскія ахвіцэры, закатаваныя ў лесе пад Менскам — гэта Катынь. Ужо ведама, хто выконваў зьверскія забойствы — нейкі Станкевіч, што карыстаўся даверам нямецкае адміністрацыі, агент амэрыканскага імпэрыялізму». ...

«ЦРУ — аўтар катынскага забойства — вось спрытна, — зазначае Гжыбоўская, — і што найважнейшае, што гэта пацьверджана амэрыканскімі крыніцамі — зьняцьцё крывавае плямы з савецкае гісторыі».

Паводля Гжыбоўскае, артыкул Мацяша — «проста пераказ кніжкі нейкага Джона Лофтуса, выданай у ЗША».

Заўвага: Катынскае забойства польскіх ахвіцэраў было зробленае ў красавіку 1940 году, калі др. Станіслаў Станкевіч працаваў настаўнікам у Наваградку.

# *100-ГОДЗЬДЗЕ ЭСПЭРАНТА*

***Вывучайма эспэранта для міжнароднага паразуменьня!***
(кліч беларускіх эспэрантыстаў)

*Эспэранта* — дапаможная, пасьля свае роднае, другая мова, створаная 100 гадоў таму навуковым спосабам паводля загадзе складзенага пляну як сродак міжнароднага паразуменьня.

Эспэранцкай мовы навучыцца можна лёгка й хутка. Граматыка мае толькі шаснаццаць правілаў, вельмі спрошчаная ды ня мае выключэньняў. Словы ўтвараюцца на асновах, узятых з эўрапейскіх моваў, з дадаткам розных прыставак. Графіка аснованая на лацінскім альфабэце. Некалькі літараў маюць дыякрытычныя значкі і гэта зьмяншае колькасьць літараў альфабэту. Націск у словах нязьменны, на перадапошнім складзе. Кожная літара прадстаўляе сабой толькі адзін гук. Дык як пішацца, так і вымаўляецца.

Аўтар гэтай міжнароднай мовы — ураджэнец заходня-беларускага гораду Беластоку, лекар і паліглёт *Л. Л. Замэнгоф* (1859-1917). Агульную мэдыцыну Замэнгоф студыяваў у Маскве (1879-81), а пасьля — у Варшаве (1881-85). Першую лекарскую практыку ён адкрыў у літоўскім гарадку Вэйсэяй. У 1886 г. выехаў у Вену на дадатковыя студыі акулістыкі. Як лекар-акуліст пачаў у 1889 г. працаваць у паўдзённаўкраінскім горадзе Херсоне. Адгэтуль у 1893 г. пераехаў у заходня-беларускі горад Горадню, а ў 1898 г. — у Варшаву.

Маючы падручнікі новай мовы ў рукапісах, др. Замэнгоф ня меў аднак грошай, каб іх выдрукаваць. Даўжэйшы час шукаў выдаўца, але ніхто не захацеў рызыкаваць сваймі грашыма. Нечакана прыйшоў зь фінансавай падтрымкай заможны купец з Коўні, з дачкою якога Замэнгоф у 1886 г. пазнаёміўся, а ў наступным годзе заручыўся й ажаніўся. Першы падручнік мовы эспэранта быў выдрукаваны ў Варшаве ў 1887 годзе.

Расейская цэнзура была тады суворая. Кожная навінка ў цэнзараў выклікала падозраньне. А атрымаць дазвол на друкаваньне ў розных мовах, як меркаваў др. Замэнгоф, будзе лягчэй, калі падручнік спачатку надрукуецца парасейску. Гэткі прадуманы плян выявіўся ўдалым, бо-ж пасьля таго як зьявіўся падручнік эспэранта парасейску, царская цэнзура дазволіла выдрукаваць такія-ж падручнікі папольску, панямецку, пафранцуску й паангельску. А на наступны падручнік (ч. 2), ужо цалкам паэспэранцку, цэнзура дала дазвол на пачатку 1889 году.

Першы эспэранцкі слоўнік у пяцёх мовах быў выдрукаваны ў 1893 г., а эспэранцкая хрэстаматыя — у 1903-ім.

Першы штомесячны часапіс мовы эспэранта пачаў друкавацца ў 1889 г. ў Нямеччыне. Але ў 1895 г. на прысыланьне гэтага часапісу ў Расейскую імпэрыю царская цэнзура наклала забарону. А дзеля таго, што першы часапіс меў бальшыню падпісчыкаў у краёх, што былі пад расейскай акупацыяй, ды ў самой Расеі, то далей ён выходзіць ня мог. У канцы 1895 г. пачаў выдавацца другі эспэранцкі часапіс у Швэцыі.

Апошнімі гадамі налічваюць ад 130 да 140 эспэранцкамоўных часапісаў.

Ёсьць і вялікая колькасьць перакладных ды арыгінальных твораў як празаічных, гэтак і паэтычных.

Аб эспэранцкіх перакладах зь беларускай мовы маем скупыя дадзеныя. Беларусы, асабліва ў заходнім сьвеце, не выкарыстоўваюць міжнароднае мовы эспэранта на карысьць беларускай справы ў такой меры, як людзі іншых нацыянальнасьцяў. У гэтым кірунку можна мець пажаданьні і да беларускіх суседзяў, Украінцаў. У «Энцыкляпэдыі ўкраіназнаўства» (слоўнікавая частка), выдадзенай у 1955 (!) годзе ў Заходняй Нямеччыне, ёсьць артыкул пра эспэранта. Аўтар энцыкляпэдычнага артыкулу М. Міхайлаў, украінскі знаўца эспэранцкай мовы, працаваў — як ён сам аб сабе напісаў — прафэсійна ў установе Эспэранцкага саюзу дзесь у Паўночнай Амэрыцы, але ня ведаў, што, напрыклад, эспэранцкія паэтычныя пераклады твораў вялікага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі былі друкаваныя ў Упсале, Жэнэве, Парыжы, Варшаве ящчэ перад 1-ай Сусьветнай вайной ды пасьля яе — у Будапэшце. Ня ведаў пра асобныя кніжкі з эспэранцкімі перакладамі твораў Т. Шаўчэнкі. З Шаўчэнкавых твораў успомніў ён у сваім артыкуле толькі адзін верш, а назоў эспэранцкага журналу «Украіна стэльо» на ўкраінскую мову пераклаў з памылкаю.

Зь беларускай літаратуры падамо для прыкладу надзвычай прыгожы эспэранцкі пераклад Купалавага вершу «А хто там ідзе?» («Сэд кійу йэн ірас?»). А зь перакладчыкаў у эспэранцкую мову зь беларускай вядомыя нам А. Паўлюкавец і Б. Бэрын. Зь Беларусаў, як арыгінальныя эспэранцкамоўныя аўтары вядомыя Янка Маўр і Сымон Жамойда.

21.XI.1987 г.

**(-ммт)**

*Jánka Kupála*

*SED KIU JEN IRAS?*
*El blank-rutena (bielarusa)*
*livingo tradukis A. Paŭliukaviec.*

*Sed kiu jen iras, tie laŭ voj'*
*En granda amas', en granda malĝoj'?*
*— Bielarusoj.*

*Sed kion do poras, homo ĉe hom',*
*Kaj ĉiu malgrasa kvazaŭ fantom'?*
*— Ofendiĝon.*

*Sed kien do portas komune, ĝin,*
*Al kiu por plemdi je la destin'?*
*— Al tutmondo.*

*Sed kiu do ilin, ne nur milion'?*
*Instigas batali en ĉi-kolon'?*
*— Malfeliĉo.*

*Sed kia do estas ilia vol',*
*De tiu blinda, surda popol'?*
*— Homoj esti.*

El libro: Jánka Kupála "A chto tam idzie?", na movach svietu), p. 137. Eldonejo "Mastackaja litaratura", Minsk, 1982 h.

Эспэранцкія літары: Ĉĉ = ч, Ĥĥ = х, Ĵĵ = ж, Ĝĝ = дж, Ŝŝ = ш, Ŭŭ = ў.

**Заўвага рэд. «Беларуса»:** У Варшаве жыве сёньня перакладчык зь беларускае мовы ў эспэранцкую сп. Балеслаў Манкевіч.

## БЕЛАРУСЫ-ЭСПЭРАНТЫСТЫ Ў ЗША

Прыбыўшы ў Амэрыку на пачатку 1950-х гадоў, беларускія эспэрантысты сп. сп. Сымон Жамойда і Ул. Пеляса бралі ўдзел у працы 47-га зьезду Асацыяцыі Эспэрантыстаў Паўночнае Амэрыкі, пра што пісаў часапіс American Esperanto Magazine, New York, vol. 71 (3-4), 1957.

## З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ

*(Частка 4-я, пачатак гл. у № 340)*

Вось ужо й Арызона. Painted Desert (Маляўнічая пустыня). Чырвоныя, бурыя, жоўтыя колеры з мноствам пераходных адценьняў, што мяняюцца з сонечным асьвятленьнем. Вокам неабсяжныя краявіды. Непадалёку — Petrified Wood (Скамянелы лес). Цікавая зьява прыроды. Каля 200 міліёнаў гадоў таму на месцы сёньняшняга высокага плято была лясістая нізіна з мноствам рэчак, заселеных рознага роду рэптыліямі падобнымі да кракадзілаў, малымі дыназаўрамі і рознаю іншаю тагачаснаю зьвярынаю. Упаўшыя дрэвы, падобныя на нашыя сосны, падчас паводак сплывалі ў нізіну. Там яны паступова пакрываліся балотам, наносным ілам ды вульканічным попелам. Гэты ізаляцыйны слой захаваў пні ад гніцьця. І так зь цягам тысячалецьцяў дрэвы скамянелі.

У выніку розных геалягічных рухаў паверхні зямлі гэтая нізіна паднялася даволі высока. У новым геалягічным пэрыядзе водная і паветраная эрозія раскрылі гэтыя скамянелыя пні, рэшткі расьлін ды жывёлаў таго часу. Дзеяньне эрозіі адбываецца й сёньня. У некаторых месцах алювійны (наносны) пласт зямлі, што яшчэ захоўвае рэшткі пнёў, дасягае да 90 мэтраў таўшчыні. Тэкстура драўніны прыгожая, бо асеўшыя на ёй мінэралы ды іншыя скамянелыя наносы надаюць ёй цэлую скалю колераў і адценкаў.

Руіны паселішча Індыянаў Пуэрка сьветчаць, што гэтыя мясьціны былі заселеныя ўжо дзьве тысячы гадоў таму. Тут жылі людзі аж да 1400 году нашай эры.

Далей пры гэтай-жа дарозе № 40, паміж Ўінсловам і Флягстафам — Мэтэорны кратэр. Каля 3-х тысячаў гадоў таму — яшчэ зусім нядаўна ў геалягічным сэньсе — вялізарны мэтэор сутыкнуўся ў гэтым месцы з нашаю Зямлёю. Выбуховая энэргія, роўная прыблізна 15 міліёнам тонаў дынаміту, перамясьціла больш за 300 міліёнаў тонаў скалаў, зьнішчыла жывёльны сьвет у раёне 100 міляў (160 км.). Глыбіня кратэру — 570 футаў (175 м.), а дыямэтар — адна міля (1,6 км.). Велічны помнік касьмічных катастрофаў, ён прыцягвае сотні тысячаў наведнікаў. Падобная да Месяцавай тапаграфія тэрэну і была прычынай, чаму Нацыянальная Адміністрацыя Касьмічных Палётаў (NASA) выбрала гэтае месца для трэнінгу касманаўтаў. Цікавы й вельмі добра ўладжаны музэй астрагеалёгіі паказвае гісторыю навукі аб Зямлі, палётаў чалавека ў ейнае навакольле ды пасадку на Месяцы, вялікія фрагмэнты мэтэору (жалеза), што тут упаў. Гэтае месца пакідае па сабе глыбокае ўражаньне.

Едзем далей на Флягстаф, а адтуль на поўнач у Грэнд (Вялікі) Каньён. Дарогі маляўнічыя, ужо не пустынныя. Паабапал лес. Мясцовасьць турыстычная, шмат самаходаў. Вось мы ў Grand Canyon Village. Знайсьці вольнае месца ў адным з шматлічных гатэляў ня лёгка, але ўсё-ж, дзякуючы зараднасьці Галіны, гэтая праблема была хутка й добра абладжаная. Па кароткім перапынку з прычыны буры, надзеўшы ўжо сьвтры, селі мы на спэцыяльны аўтамабільны цягнік і паехалі аглядаць Каньён. Высядаем на прыстанках, адмыслова ўладжаных для турыстаў, з асабліва цікавым выглядам на Каньён. Па 15-хвілінным прыпынку бяром чарговы цягнік і едзем да наступнага прыстанку, і гэтак далей. Уражаньняў сваіх не апішу, бо немагчыма апісаць гэткую веліч каменных напластаваньняў, рознага колеру й адценьняў — чырвонага, фіялетавага, бурага — ды як-жа ўсе іх назваць?! — завуалёваных сіняватай смугою. Каньнён, зьверху шырачэзны, ад 1800 мэтраў да 30 кілямэтраў — як-жа яго абняць вокам? — звужаючыся пласт за пластам уніз, недзе губляецца ў глыбіні, да 1,6 км., у якой час ад часу паблісквае, выкручваецца зялёным вужом рэчка Калярада. Гэты нацыянальны парк — запаведнік сусьветнага значаньня (World Heritage Site).

Позна ўвечары, калі мы выйшлі з рэстарану й апынуліся ў цемнаце, нас запаланіла неба. Падобнага начнога неба я нідзе ня бачыў і хіба-ж ня ўгледжу. Тысячы зорак, вялікіх як кулак, завешаных нізка-нізенька над самай галавой, што вось і дастанеш рукою і сарвеш. Хто-ж з нас ніколі ня марыў падарыць зорку-дыямэнт каханай сваёй? Тое зорнае неба мне застанецца назаўсёды як цудоўны ўспамін.

Вялікі Каньнён выглядае інакш раніцою, калі ўскосныя прамяні сонца асьвятляюць толькі верхнія берагі й павароты. Кожную гадзіну колеры мяняюцца, ярчэюць, а Каньён усё больш і больш адчыняецца ў глыбіню.

Нажаль, усё мае свой канец. Трэба разьвітвацца зь Юзікам, нашым даўным сябрам. Вельмі прыемна было зь ім спаткацца. Падарозе нагаварыліся шмат. Нашыя погляды не заўсёды супадалі, аданак мы адзін аднаго разумелі й шанавалі. Юзік, Ты паехаў аўтобусам на Флягстаф і далей у Ляс-Вэгас. «А там самалётаў як сабак!» Хацеў Ты мяне забраць з сабою на пару дзён, каб паказаць Каліфорнію, сонечную й прыгожую. Гэтых пару дзён я ўжо ня меў. Усё было расплянавана Галінаю так, што і дня ня вырвеш. Дык, Юзік, бывай. Бывай, дарагі й стары сябра. Спадзяюся, што мо йшчэ ўгледзімся, або ў Тваёй даўнейшай бацькаўшчыне — Эўропе, або ў новай — Каліфорніі.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

### БАПЦ: ПРАПАНОВА ПРЫМІРЭНЬНЯ

Бюлетэнь БАПЦ «Царкоўныя Навіны» (№ 5/36, Таронта, Каляды, 1987) падаў, што на судзе 24 лістапада 1987 г. Архіепіскап Мікалай выставіў гэткую прапанову:

«1. Архіепіскап Мікалай можа прызнаць Бруцкага епіскапам БАПЦ. 2. Ніхто з двух ня ёсьць першым гіерархам. 3. Арх. Мікалай затрымае за сабой парафіі, якія цяпер да яго належаць, а Бруцкі свае. 4. Раду БАПЦ стварыць з удзелам шасьці асобаў з аднаго й шасьці з другога боку. Гэта была-б інстытуцыя, дзе абодва бакі маглі-б дагаварыцца паміж сабой. 5. Маемасьць нельга прадаваць бяз згоды абодвух бакоў. 6. Найпазьней за тры гады склікаць Сабор БАПЦ».

«Пасьля паўторнае нарады з Бруцкім, — піша бюлетэнь, — адвакат В. Гарошка адкінуў прапанову Архіепіскапа Мікалая...»

«Судзьдзя прысудзіў, каб парафія Гайленд-Парку перапісала ўсю рухомую й нярухомую маемасьць на БАПЦ. І судзьдзя сказаў: 'А хто з вас БАПЦ, я ня маю права рашаць. Рашайце самі...'». Бюлетэнь выказаў меркаваньне, што «Гарошка надалей будзе судзіцца».

## УСПАМІНЫ АТАМАНА ЛЮТАГА-ЛЮТЭНКІ

Кніжка ўспамінаў атамана Івана Лютага-Лютэнкі пад заг. «Вогонь з холодного яру» (Дэтройт, 1986, 151 б.б., ілюстраваная; рэдакцыя Сідара Краўца) расказвае пра «бурлівую й жорсткую мінуўшчыну» ейнага аўтара — чалавека дынамічнага, гарачага ўкраінскага патрыёта, актыўнага змагара за Ўкраінскую Народную Рэспубліку гадамі грамадзянскае вайны, здольнага гандлёвага прадпрыймальніка ды грамадзкага й царкоўнага дзеяча. Сп. Лютага-Лютэнку Бог надзяліў ня толькі моцным духам, але й добрымі генамі. Ён дажыў шчасьліва да 90-гадовага веку разам із сваёй жонкай Вольгай, Беларускай зь Івацэвічаў (з дому Лаўрэнчык). Шмат хто з нашых суродзічаў у ваколіцах Нью-Бранзьвіку ведае сп. Лютага-Лютэнку, собсьніка фірмы «Вікінг», якая вырабляла прадуктовыя кансэрвы (квашаную капусту, гуркі й пад.).

У сваіх успамінах аўтар расказвае пра сваё сялянскае паходжаньне, пра навуку ў Маскве (гандлёвая школа), афіцэрскую службу ў царскай арміі (у часе Першае вайны быў на Беларусі), ачольваньне паўстанцкага нацыянальнага палка (атаман Гонта) у змаганьні з бальшавікамі, пераход мяжы ў Польшчу ў 1923 годзе, нялёгкае далейшае жыцьцё ў Польшчы панскай і ў Польшчы (Генэральным Губэрнатарстве) пад нямецкай акупацыяй, арышт Немцамі за прыхільнае стаўленьне да ваеннапалонных, эміграцкае жыцьцё ў Мюнхэне ды ў Марока, адкуль у 1956 г. Люты-Лютэнка выехаў у ЗША.

Успаміны напісаныя бяз прэтэнсіі на строгую дакумэнтальнасьць ці гістарычную панарамнасьць. Гэта проста эпізоды зь біяграфіі чалавека, на шляху якога было цімала і драматычнага, і трагічнага, і павучальнага. Кніжка выйграла-б, калі-б у ёй было крыху больш геаграфічнае й хранялягічнае дакладнасьці, бо ў чытача часта ўзьнікае пытаньне, дзе-ж і калі гэта было тое, пра што аўтар расказвае. Тым ня менш, успаміны чытаюцца лёгка, як лёгка слухаецца расказ чалавека пра свае прыгоды, перажываньні.

З эпізодаў, якія апісвае аўтар, беларускаму чытачу будзе асабліва цікавай сцэнка, як прэзыдэнт УН Рады Андрэй Лівіцкі ў 1944 г. «міры́ў» архіерэяў, сярод якіх быў і епіскап Мсьціслаў (Скрыпнік), «цяперашні мітрапаліт у квадраце», як яго заве аўтар успамінаў, а якога Лівіцкі зваў «палітычным спэкулянтам». Расказвае аўтар і пра іншую бурную і зусім не сьвятарскую выхадку епіскапа Мсьціслава. Прачытаўшы гэта, стаецца больш зразумелым, чаму гэты чалавек убліытаўся апошнімі гадамі разьбівальніцкім спосабам і ў гісторыю БАПЦ у Амэрыцы.

З успамінаў атамана Лютага-Лютэнкі відаць, якім вялікім падабенствам пазначаная гісторыя ўкраінскага й беларускага народаў, якія вялізарныя перашкоды стаяць на шляху нацыянальнага існаваньня гэтых народаў ды колькі трэба напорнасьці, ахвярнасьці і ўмельства, каб гэтыя цяжкасьці перамагаць. Але Іван Люты-Лютэнка сваім жыцьцём паказаў, што перамога магчымая, калі толькі да гэтага імкнуцца.

## НАБЫВАЙЦЕ ВЫДАНЬНІ

**Масей Сяднёў**. І ТОЙ ДЗЕНЬ НАДЫЙШОЎ. Раман з часоў Другой сусьветнай вайны. Нью-Ёрк, 1987, 246 б.

**Масей Сяднёў**. РАМАН КОРЗЮК. Раман. Нью-Ёрк-Мюнхэн, 1985, 314 б. Кнігі можна набыць у аўтара: Masej Sednew, 15 Alex Lane, Glen Cove, N.Y. 11542. Цана кожнае: 15 дал.

**Аляксандра Саковіч**. У ПОШУКАХ ПРАЎДЫ. Дакумэнтальныя нарысы, апавяданьні. Нью-Ёрк-Кліўленд, 1986, 245 б. Выд. БІНіМ. Цана: 20 дал.

ЛІСТ (28-Х) ДА ГАРБАЧОВА. Там-жа: КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ГУМАНІТАРНЫЯ КАНФЛІКТТЫ (ліст Алега Бембеля да М. С. Гарбачова й дзеячоў гуманітарнае культуры) (зь перакладам у анг. мову). Лёндан, 1987, 39 б. Выд. ЗБВБ. Цана: 3 дал.

ЛІСТ (134-Х) ДА ГАРБАЧОВА (зь перакладам у анг. мову). Лёндан, 1987, 27 б. Выд. ЗБВБ. Цана: 2 дал.

**Алег Бембель**. РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС. Лёндан, 1985, 242 б. Выд. ЗБВБ. Цана: 10 дал.

**Алесь Салавей**. НЯТУСКНАЯ КРАСА. Збор твораў. Нью-Ёрк-Мэльбурн, 1982, 373 б. Выд. БІНіМ. Цана: 20 дал.

**Натальля Арсеньнева**. МІЖ БЕРАГАМІ. Выбар паэзіі. Нью-Ёрк-Таронта, 1979, 350 б. Выд. БІНіМ. Цана: 20 дал.

**Ян Пятроўскі**. КЛЯСЫЧНЫ ГРЭЦКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК. У 2-х частках, усяго 572 б. ЗША, 1983 і 1985. Выд. Беларускага Дабрадзейна-Асьветнага Т-ва. Выпісаць можна ад аўтара-выдаўца: John Piotrowski, 1716 NE 7th Terrace, Grainesville, Fla 32601.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва высылае дармовыя каталёгі беларускіх эміграцыйных і савецкіх выданьняў, якія можна набыць у БІНіМе. Пішэце на адрас: BINiM, 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J. 07070.

### «БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ» № 19 (48)

На вокладцы нумару — фатаграфія Багдана «Данчыка» Андрусышына, выдатнага беларуска-амэрыканскага сьпевака й грамадзкага працаўніка на беларускай культурнай ніве ў ЗША. На адвароце вокладкі — ноты й словы папулярнае песьні Н. Гілевіча й Э. Ханка «Вы шумеце, бярозы». Зьмест: рэдакцыйная нататка пра Данчыка; Г. Няміга — Першая беларуская гімназія на чужыне; В. Кіпель — Заўвагі аб беларуска-амэрыканскай літаратуры; В. Сініца — Маё мястэчка; Н. Тарас — Зямлячкам на чужыне (верш); В. Стома — Абрады й звычаі Дзісьненшчыны, зьвязаныя з рэлігійнымі сьвятамі; В. Жуковіч — верш без загалоўку («Люблю цябе, дарога палявая»); Жменька ўспамінаў пра Аляксандра Калодку; У. Глыбінны — Вялікія дарогі (працяг раману); Ю. Кісялеўскі — Роднай Беларусі (верш); Ант. Адамовіч — Мастак нятускнае красы (пра Алеся Салаўя); Я. Пушча — Песьня вайны (паэма). Нумар (78 бб.) ілюстраваны.

У дадатку да часапісу «Думкі й пагляды» № 9: успамін пра Аўгена Калубовіча); выпіска з газэты «Ніва» пра сварлівасьць Беларусаў; разважаньні k.s. пра мову й культуру; успамін А. Слонімскага пра Слонімшчыну.

Рэдактар і выдавец часапісу — Мікола Прускі. На яго слаць замоўленьні й ахвяры:

Nikolas Pruski
1086 Forest Hills Ave., SE
Grand Rapids, Mich 49506 U.S.A.

## ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА

Данчыкаву апошнюю кружэлку можна набыць за 15 даляраў (плюс кошт перасылкі: 2,50 дал. у ЗША), пішучы на адрас:

Mrs. J. Andrusyshyn
430 East 6 St., Apt 3C
New York, N.Y. 10009

### КЛЯСАВЫ АРГУМЭНТ НА ДРУГОЕ МЕСЦА

Няма вышэйшых інтарэсаў за інтарэсы клясавыя — дзесяцігодзьдзямі цьвердзілі савецкія гісторыкі ды ідэёлягі, ацэньваючы факты мінуўшчыны й сучаснасьці. Але вось прыйшоў Гарбачоў і кажа:

«Яшчэ на пачатку стагодзьдзя У. І. Ленін выказаў думку калясальнай глыбіні — аб прыярытэце агульначалавечых каштоўнасьцяў над задачамі таго ці іншага класу. Сёньня значнасьць гэтай думкі адчуваецца асаблівва войстра». («Зьвязда», 9.X.87, арт. В. Каваленкі).

Калі быць пасьлядоўным, дык трэба прызнаць таксама прыярыэт і агульнанацыянальных каштоўнасьцяў «над задачамі таго ці іншага класу», бо толькі тады можна належна ацаніць усю сваю гістарычную мінуўшчыну.

## ЖЫВУЧАСЬЦЬ ПЕСЬНІ
### Беларускія песьні ў Расеі

«Пра беларускія сёлы, скажам, у былой Цьвярской, Ніжагародзкай і Вяцкай губэрнях, пра тое, які песенны рэпэртуар Беларусаў-перасяленцаў, як узаемадзейнічаюць розныя фальклёрныя традыцыі, пісаў ужо ў пачатку нашага стагодзьдзя вядомы збіральнік і этнограф Д. К. Зяленін. (...)

«У Верхняе Паволжа перасяляліся ўраджэнцы Віцебскай і Магілеўскай губэрняў пасьля вядомых сталыпінскіх рэформаў. (...) Было гэта ў 1911 годзе. Страшным быў гэты год для многіх зь іх. Але насуперак усяму людзі выстаялі, здолелі раскарчаваць лес і сплавіць яго па Унжы, разьбіць і разараць дзяляны, вырасьціць першы ўраджай. У гэтай барацьбе зь лесам, з уласнай галечай людзі згуртаваліся, зразумелі, што толькі разам можна пераадолець цяжкасьці. Гэтаму вучылі і сваіх дзяцей. І потым, ужо ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў калгас 'Полымя' быў лепшым у Сакольскім раёне. Заснаваны-ж ён быў у асноўным былымі беларускімі перасяленцамі.

«І засталася, відаць, з тых страшных часоў, калі вымушаныя былі ў пошуках кавалка хлеба пакідаць дом, такая 'калядка':

Зіма недалёчка, зіма недалёчка,
Хлеба ні кусочка, хлеба ні кусочка.
Пашыем мяшочкі, пашыем мяшочкі,
Пойдзем па кусочкі, пойдзем па
кусочкі!

Усяго намі было запісана ад жыхароў сяла Ятава, Пелегава, Ябланава Іванаўскай вобласьці 6 беларускіх казак, 36 песень, 18 вусных апавяданьняў, 460 частушак. (...) Асабліва поўна і маляўніча прадстаўленае ў нашых запісах традыцыйнае беларускае вясельле (9 варыянтаў). Яго да гэтага часу спраўляюць з захаваньнем традыцыйных вялічаньняў, лірычных песень, з наказамі маладым і прыслоўямі дружкі».

(Наша песьня на Волзе. «ЛіМ», 16.X.87).

### АБВЕСТКА

Сп. Балеслаў Лішчонак, на свой кошт, выдаў дзьве розныя касэты зь беларускімі песьнямі й танцамі. Цана аднэй касэты — 6.00 дал. амэрыканскіх ці канадыйскіх. Перасылку аплачвае пакупнік. Замаўляць у выдаўца, або вызначанага агента мясцовага згуртаваньня. Зьвяртацца на адрас:

Mr. B. Lisczonak, 472 Byron Court,
Oshawa, Ont., LIH 6R9.

*(«Зважай» № 4(48), лістапад, 1987 г.).*

*THE NEW YORK TIMES*
*THURSDAY, DECEMBER 10, 1987*

**REQUEST OF BYELORUSSIAN-AMERICANS TO SECRETARY GENERAL MR. M. S. GORBACHEV**

**Dear Mr. Gorbachev:**
**Please urge your Party officials in Moscow and Minsk to publish the two open letters sent to you by Byelorussian writers, artists, and workers in defense of Byelorussian language and culture. The first letter was signed by 28 people and the second by 134. Your assistance in satisfying their pleas will be significant additional proof that glasnost leads to democratization.**

**The Byelorussian-American Association**
**166-34 Gothic Drive**
**Jamaica, N.Y. 11432**

*У дзень, калі Гарбачоў ад'язджаў з Вашынгтону, БАЗА зьмясьціла гэтую абвестку-зварот у газ. «Нью-Ёрк Таймс» (тыраж: 1 000 000 экз.). За прысланыя ахвяры на аплату вялікага кошту абвесткі БАЗА будзе вельмі удзячная.*

### *З жыцьця ў Кліўленьдзе*

### *СВАЯ ДРУКАРНЯ*

Кліўлендзкая грамада мае для сваіх патрэбаў друкарскія магчымасьці. Паведамленьні пра нацыянальныя й рэлігійныя сьвяткаваньні, білеты на забавы й лятарэі, розныя анонсы аб тым ці іншым мерапрыёмстве рассылаюцца ці вывешваюцца друкаваньня, з густам аформленыя народным арнамэнтам, living рознымі заставіцамі ці эмблемамі. Друкі гэтыя застаюцца трывалым архіўным матар'ялам, як сьветчаньне шчыраваньня кліўленцаў на грамадзкай ніве. Вось, прыкладам, як выглядае, адзін з апошніх друкаў кліўлендзкіх рупліўцаў:

**MOTHER OF GOD OF ZYROVICY**
BYELORUSSIAN AUTOCEPHALIC ORTHODOX CHURCH
3517 WEST 25TH STREET, CLEVELAND, OHIO 44109
TELEPHONE 216 749-5756, 845-7388



*Schedule of*
CHRISTMAS SERVICES
*1987*

JANUARY 3 THRU 19, 1988



**РАСКЛАД**
**КАЛЯДНЫХ СЛУЖБАУ**
**1987г.**
**АД 3 ДА 19 СТУДЗЕНЯ 1988 г.**

УВАГА!!! УВАГА!!!

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

**B. Danilovich**
**303 Howard St.**
**New Brunswick, NJ 09901**

**Адміністрацыя газ. «Беларус»**

**ПАЧЫНАЮЧЫ НОВЫ ГОД, ЗАЗНАЧЦЕ Ў СЯБЕ НА КАЛЕНДАРЫ ДАТУ 3-5 ВЕРАСЬНЯ — ЧАС СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ.**

## НОВЫЯ КНІГІ У 1988 Г.

Паводля каталёгаў, у БССР заплянавана выдаць у 1988 годзе:

| *Назоў выдавецтва* | *Пабеларуску* | *Парасейску* |
|---|---|---|
| Навука і тэхніка (навука, інжынерыя) | 17 | 141 |
| Вышэйшая школа (падручнікі, эканоміка, прамысловасьць, гісторыя) | 6 | 47 |
| Полымя (кулінарыя, гігіена, турызм, спорт, быт) | 0 | 81 |
| Беларусь (папулярная літаратура) | 20% | 80% |
| Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя (энц. даведнікі) | 2 | 5 |
| Унівэрсытэцкае (навуковыя манаграфіі) | 5 | 52 |
| Народная асьвета | 27 | 140 |

Як бачым, выдавецтвы рэспублікі выдадуць у 1988 годзе каля 90% прадукцыі парасейску і толькі каля 10% пабеларуску. Значыцца, ніякіх зьменаў на лепшае, гарбачоўская «перабудова» ў галіне выдавецтва тымчасам ня прынесла. Русыфікацыя праз друкаванае слова трывае далей.

**В. К.**

## *«ПАНАРАМА РОК-ПЛЫНЯЎ»*

Часапіс «Беларусь» мае разьдзел «Фанаграма», прысьвечаны маладзежнай музыцы, якою пры ЦК камсамолу рэспублікі займаецца «экспэрымэнтальны цэнтар». Вось што піша член праўленьня «экспэрымэнтальнага цэнтру» Юры Цыбін у жнівеньскім нумары часапісу «Беларусь»:

«У панараме рок-плыняў, якія актыўна разьвіваюцца ў самадзейнай эстрадзе рэспублікі, цяжкі рок — толькі адзін зь яе полюсаў. Другі полюс прадстаўляе так званы арт-рок, схільнасьць да якога маюць такія, даволі вядомы групы, як 'Блізьняты' і 'Мроя'. Арт-рок ня выклікае такога бурнага напалу пачуцьцяў, як 'хэвімэтал', — прываблівае перш за ўсё пастаянная нацэленасьцю музыкантаў на пошук усё новых і новых сродкаў музычнай выразнасьці, ашчаднымі адносінамі да слова. Паміж гэтымі, вядома, умоўным полюсамі зьмясьціліся і 'новая хваля' менскай 'Бонды', і поп-рок брэсцкай 'Залатой сярэдзіны'.

«...Такім чынам, сытуацыя склалася надзвычай цікавая. З аднаго боку, у нас ёсьць пэўная (зь дзясятак, ня менш) колькасьць калектываў, здольных прывабіць маладых слухачоў у канцэртныя залі. З другога боку, яны нібыта і ня існуць зусім: статус самадзейных не дае ім магчымасьці актыўна займацца канцэртнай дзейнасьцю. Выступленьні калектываў адбываюцца ад выпадку да выпадку, і, нягледзячы на цікавасьць да іх сродкаў масавай інфармацыі, якая апошнім часам значна ўзрасла, шырокаму колу слухачоў яны амаль не знаёмыя. (...)

«Колькі энэргіі, колькі слоў мы патрацілі і працягваем траціць на тое, каб выкрываць, ганьбіць і прыпыняць паток заходняй эрзац-музыкі, які бесьперапынна вывяргаецца на нас! А калі-б накіраваць хоць частку гэтых намаганьняў на папулярызацыю таго лепшага, што ёсьць у лёгкім жанры ў нас? Колькі-ж можна трымаць абарону! Але... Зазірнеце ў любы магазын, які гандлюе грампласьцінкамі. Прынамсі, нават не заходзячы, зразумела, як там прадстаўленая беларуская эстрада. Кожны год складаецца сьпіс артыстаў і твораў, якія рэкамэндуюцца для запісу на пласьцінкі фірмы 'Мэлёдыя' — і кожны год нейчая рука ўпісвае туды (па інэрцыі ці што?) знаёмую абойму іменаў і назваў. Пра якое выхаваньне густаў слухачоў можа ісьці размова, калі яму не даваюць нават прыняць удзел у складаньні заявак на грамзапіс? Дзіўнае становішча! Дабрабыт-жа фірмы залежыць менавіта ад таго, зойдзе ці не той-жа слухач у магазын, купіць ён ці не выпушчаную пласьцінку. Вось дзе, як паветра, неабходна галоснасьць!»

## М. СЬЛЮНЬКОЎ — «АДЗІН З НАЙМАЦНЕЙШЫХ»

Паводля амэрыканскага газэтнага агенцтва Knight-Ridder Newspapers (17.XII.87), 58-гадовы Мікалай Сьлюнькоў, былы першы сакратар кампартыі Беларусі, а цяпер член Палітбюро і Сакратарыяту ЦК КПСС, — «адзін з наймацнешых» на вяршаліне савецкае ўлады. У Сакратарыяце Сьлюнькоў адказны за эканамічныя справы. Карэспандэнт агенцтва натрапіў на Сьлюнькова выпадкова, калі той наведваў у Маскве ўкраінскі магазын «Хмяльніцкі», каб паглядзець, як масквічы забясьпечваюцца прадуктамі. У гутарцы з карэспандэнтам Сьлюнькоў выказаў надзею, што кожная з савецкіх рэспублікаў здолее адчыніць свой магазын у Маскве.

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ПРА ВОРАГАЎ «ПЕРАБУДОВЫ»

Агенцтва Ройтэра падало з Масквы 23-га сьнежня пра інтэрвію, якое даў беларускі празаік Васіль Быкаў газэце «Moscow News». Ройтэр назваў Быкава «вядучым пісьменьнікам і публіцыстам» Савецкага Саюзу.

Паводля Быкава, «пераважная бальшыня» савецкага грамадзтва «прагне» рэформаў, бо гэта — «адзіны выхад з эканамічнае й агульнае стагнацыі». Але некаторыя ўспрыймаюць рэформы, як «нож у сьпіну і ў душу ды пагрозу іхнаму бесклапотнаму існаваньню ў мяккіх крэслах, з прывычным спосабам жыцьця, з догмамі». Вось гэткія асобы й робяць усё магчымае, каб павярнуць справу назад, каб вярнуцца да часоў з псыхалёгіяй «варожае аблогі», калі навокала бачацца ворагі й шпіёны. Гэта такія людзі, сказаў Быкаў, хацелі-б гаварыць з Захадам з пазыцыі сілы, і гэта яны супраціўяцца пасьмяротнай рэгабілітацыі «ворагаў народу», што былі панішчаныя 1930-мі й 40-мі гадамі.

### ФЭСТЫВАЛЬ РОК-МУЗЫКІ

У Горадні ў лютым сёлета мае адбыцца фэстываль беларускае рок-музыкі. У фэстывалі возьмуць удзел гэткія рок-групы, як «Мроя», «Магістрат» (зь Менску), «Гісторыя» (Гомель), «Пошук» (Полацак; група зьмяніла назоў на «Рубон») ды іншыя. Арганізатары фэстывалю меліся запрасіць і харавы ансамбль зь Беласточчыны «Дубіны» (названы імём вёскі, зь якога паходзяць сьпевакі!). («Ніва», 22.XI.87).

*«БЕЛАРУС» ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ДАПАМОЗЕ ЧЫТАЧОЎ.*

### *ПРА БЕЛАРУСАЎ НА МОНТЭ-КАСЫНА*

Выдаваная ў Лёндане польская газэта «Тыдзень Польскі» (19.IX.87) зьмясьціла вялікі артыкул Зьдзіслава Ягадзінскага пад заг. «Усё яшчэ змагаемся за Монтэ-Касына». Артыкул асвятляе цьверджаньні замежных Украінцаў аб тым, што жаўнеры польскага Другога корпусу, якія змагаўся пад Монтэ-Касына, былі ў большыні з «Усходніх Земляў», г.зн. з Украіны й Беларусі. Паводля некаторых украінскіх замежных публікацыяў, піша газэта, «у 2-ім Корпусе ген. Андрэса лік Украінцаў станавіў 12-15.000» ды што «30 працэнтаў пахаваных на Монтэ-Касына — гэта Украінцы».

Ягадзінскі піша, што Камітэт Украінскіх Студэнтаў у ЗША цьвердзіць, што «больш за тысячу Украінцаў і Беларусаў пахаваныя паміж польскіх жаўнераў на Монтэ-Касына». Ягадзінскі пярэчыць гэтаму: у сьпісе палеглых пад Монтэ-Касына, кажа ён, «не налічыцца больш як 50 прозьвішчаў украінскіх і 60 беларускіх».

### БЕЛАРУСАЎ У СССР І Ў КПСС

Паводля савецкага часапісу «Спутник» (сьнежань 1987 г.), у першай палавіне 1987 г. сярод 282,3 млн. жыхароў Савецкага Саюзу Беларусаў налічвалася 9,5 млн. (3,4%). Беларусы стаяць на чацьвертым месцы за Расейцамі (137,4 млн.; 48,7%), Украінцамі (42,3 млн.; 15,0%), Узбэкамі (12,5 млн.; 4,4%).

Паводля часапісу «Партийная жизнь» за 21 лістапада 1987 г. (б. 12), у кампартыі Савецкага Саюзу 1 студзеня 1987 г. налічвалася ўсіх членаў і кандыдатаў 19.267.715, зь іх Беларусаў — 738.793 (3,8%), Расейцаў 11.370.434 (59,0%), Украінцаў 3.082.731 (16,0%), Узбэкаў 475.981 (2,5%).

## ПЕРАВЫДАНЬНЕ СЛОЎНІКА НАСОВІЧА

«Слоўнік беларускае мовы» Івана Насовіча (1788-1877), выдадзены ў 1870 годзе, як піша ў рэцэнзіі на ягонае факсымільнае перавыданьне праф. Арнольд Макмілін, — «адзін з найважнейшых укладаў у беларускую моваведу XIX ст.».

Насовічаў слоўнік даўгі час быў бібліяграфічнай рэдкасьцяй. У 1983 г. выдавецтва «Бел. Сав. Энцыкляпэдыя» перавыдала яго фатаграфічным спосабам, але мізэрным тыражом (1000 экз.).

Добрую справу зрабіла заходнянямецкае выдавецтва Отта Загнэра, перавыдаўшы слоўнік у двух тамох з паясненьнямі прафэсароў Фрыгофа і Косты (усіх больш за 800 старонак друку). Рэцэнзуючы гэтае выданьне ў часапісе The Slavonic and East European Review (No. 4, Oct. 1987, p. 618), брытанскі прафэсар Арнольд Макмілін адзначае, што Насовічаў слоўнік застаецца й па сёньня вартаснай лексыкаграфічнай крыніцай. Праф. Макмілін выказаў спадзяваньне, што сёлетнія 100-я ўгодкі ад нараджэньня Насовіча могуць паслужыць нагодаю для далейшага дасьледаваньня працы аднаго зь цікавейшых моваведаў Расейскае Імпэрыі.

Паводля беларускага савецкага навукоўца В. Бандарчыка, аўтара кнігі «Гісторыя беларускай этнаграфіі» (Менск, 1964) у «Слоўніку беларускай мовы» Насовіча больш за 30 тыс. словаў. «Часта ў слоўніку ў якасьці прыкладаў, — піша Бандарчык, — прыводзяцца прымаўкі, прыказкі і іншыя арыгінальныя народныя выразы і ўрыўкі зь песень. У слоўніку ёсьць вялікая колькасьць этнаграфічных матар'ялаў — каштоўныя зьвесткі аб жыльлі, адзеньні, ежы, прыладах працы, аб сямейным і грамадзкім быце, абрадах і звычаях ды іншых зьявах быту й культуры Беларусаў».

## ПАМЁР ГЕН. А. БАРМІН

Ньюёркская газэта Daily News (28.XII.87) падала пра сьмерць 88-гадовага Аляксандра Барміна, ураджэнца Магілева. Бармін, быўшы генэралам Чырвонае Арміі й блізкім аднадумцам маршала Тухачэўскага, уцёк у 1937 г. на Захад. Бармін быў генэральным консулям у Іране, а пасьля паверaным у справах у савецкім пасольстве ў Афінах, адкуль і ўцёк на Захад. У 1940 г. ён прыехаў у ЗША, служыў у амэрыканскім войску, быў кіраўніком расейскае праграмы «Голасу Амэрыкі» (1948-64 г.г.) і дарадніком Інфармацыйнае Службы ЗША да 1972 году. Ягоная кніжка «One Who Survived», напісаная ў 1945 г., перакладзеная ў 23 мовы. У ёй Бармін апісвае сваё жыцьцё ў савецкім войску й на дыпляматычнай службе.

## ФАБРЫКАЦЫЯ ЗЛАЧЫНЦАЎ

Крыху пашыраная публічнасьць у Савецкім Саюзе выносіць на паверхню некаторыя факты нядаўнай мінуўшчыны. Гэтак, пракурор БССР Г. Тарнаўскі прызнаецца цяпер ў часапісе «Коммунист Белоруссии» (1987, № 10, б. 75): «...У нашай рэспубліцы, як ведама, быў выяўлены шэраг фактаў асуджэньня колькіх нявінных грамадзянаў паводля сфальсыфікаваных справаў».

Гэткай была «Віцебская справа», у якой 14 нявінных грамадзянаў былі цяжка пакараныя. Органы пракуратуры, каб паказаць сваю эфэктыўнасьць, а некаторыя сьледчыя каб заслужыць павышэньні, засудзілі людзей на аснове сфальсыфікаваных паказаньняў. Падобнай была й «Мазырская справа», у якой 5 нявінных былі засуджаны на розныя тэрміны зьняволеньня. Гэткую-ж фабрыкацыю раскрыла ў кастрычніку летась газэта «Знамя юности» (18.X) у Магілеве, дзе нявінны мужык забітае жанчыны быў прысуджаны да пакараньня сьмерцяй, але пасьля прысуд замянілі 15 гадамі лягеру суровага рэжыму.

Дык гэта грамадзянскія справы, сфэра бытавога крыміналу. Але-ж падобнымі фабрыкацыямі савецкія органы займаліся і ў дачыненьні да палітычных крытыкаў, да веруючых. Ці-ж не на аснове сфабрыкаванага абвінавачаньня трымае савецкая ўлада ў зьняволеньні беларускага іншадумца Міхася Кукабаку? Не выглядае аднак, каб гарбачоўская «галоснасьць» была гатовая да асуджэньня сфабрыкаваных палітычных справаў.

### *КОМІКСЫ Ў НОВАЙ ПУБЛІКАЦЫІ*

У БССР у студзені сёлета пачаў выходзіць новы літаратурны («тонкі») маладзежны часапіс «Крыніца». Намесьнік рэдактара «Крыніцы» Міхась Каюцішэнка ў інтэрвію газэце «Советская Белоруссия» (1.XI.87) сказаў: «Тэмы й разьдзелы часапісу — гэта таксама падарожжы, турызм, мода, сатыра, гумар, коміксы».

Коміксы?!

Вось што кажа пра коміксы Тлумачальны слоўнік беларускай мовы:

«КОМІКС. У капіталістычных краінах — кніжка, брашура, апавяданьне ў малюнках з суправаджальным тэкстам, галоўным чынам прыгодніцкага зьместу, разьлічаны на задавальненьне прымітыўных пачуцьцяў і густаў».

Праўда, Тлумачальны слоўнік выйшаў да «перабудовы», у 1977-84 гадох. Выходзіць, і яго трэба «перабудоўваць». Зрэшты, пра тое, што слоўнік гэты з заганамі, пісаў ужо ці адзін крытык.

## СЬВ. † ПАМ. МАТУШКА ОЛЬГА СТАР

Нарадзілася ў сяле Халмок Віцебскае губэрні, памерла 19.XII.1987 г. ў Джорданвіле, штат Нью-Ёрк, дзе й пахаваная на манастырскім магільніку. Нашаму дарагому а. Карпу Стару, дочкам і ўнукам выказваем глыбокае спачуваньне ў іхным горы ды зычым вытрываласьці духа. Вечная памяць матушцы Ользе.

**Парафія БАПЦ у Гайленд-Парку**

## СЬВ. † ПАМ. КАСТУСЬ ЁЛАБ

Даўгагадовы сябра Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі неспадзявана адыйшоў на вечны супачынак. Нябожчык пакінуў у смутку жонку Зосю, сыноў Міхася, Пятруся, дачок Марыльку, Ганну, нявестак, зяця і ўнукаў.

Хай пухам будзе яму аўстралійская зямля.

23 лістапада 1987 г.

**Сябры Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Л. Трусэвіч | ам.дал. 100 |
| М. Грэбень | 100 |
| А. Бяленіс | 100 |
| М. і В. М. | 50 |
| Л. Норык | 35 |
| В. Кажан | 30 |
| М. Калядко | 25 |
| М. Белямук | 20 |
| Л. Кавалёў | 15 |
| Н. Артысэвіч | 10 |
| А. Асіповіч-Асіпчык | 10 |
| К. Калоша | 10 |
| Я. Ханенка | 10 |
| І. Каханоўская | 10 |
| К. Каляда | 10 |
| Ч. Найдзюк | 10 |
| Усяго | 545 |

Я. Жучка (Бэльгія) заміж кветак на магілу с.п. О. Запруднік ам.д. 50

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| А. Даніловіч | 100 |
| Сэктар рады БНР у Н.-Дж. | 25 |
| Парафія БАПЦ у Гайленд-Парку | 25 |
| В. Балтрушэвіч | 25 |
| Л. Шурак | 15 |
| А. Губэрт | 15 |
| М. Бахар | 15 |
| М. К. | 10 |
| М. Ц. | 5 |
| Усяго | 235 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| А. Шаршуновіч | ам.д. 40 |
| Э. Пітушка | 25 |
| М. Шуст | 25 |

**АНГЕЛЬШЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Х. Кажаневіч | ам.д. 20 |

**ФРАНЦЫЯ**

| | |
|---|---|
| Б. Нагорны | кан.д. 10 |

**ШВАЙЦАРЫЯ**

| | |
|---|---|
| Я. П. Лёхэр | ам.д. 15 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз. сп. М. Лужынскага:*

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі | аўстр.д. 100 |
| С. Каранеўскі | 100 |
| М. Мілеўскі | 50 |
| Л. Грыцай-Бакуновіч | 40 |
| М. Антух | 40 |
| А. Бакуноіч | 25 |
| М. Сазановіч | 20 |
| Я. Гавенчык | 20 |
| М. Бакуновіч | 20 |
| А. Хаванская | 10 |
| К. Сіткоўскі | 10 |
| Усяго | 485 |

Я. Роласан (за кнігі Ст. Станкевіча пра Я. Купалу) ам.д. 142.46

*Усім ахвярадаўцам і падпішчыкам ды прадстаўніком нашым шчыра дзякуем!* — **Выдавецтва «Беларус»**

### *«НЯСУНЫ»: ГРАМАДЗКАСЬЦЬ НЕ АСУДЖАЕ*

Пракурор БССР Г. Тарнаўскі жаліцца («Коммунист Белоруссии», 1987, № 10, б. 75-6):

«Вялікая яшчэ колькасьць дробных пакражаў, не перавяліся г. зв. 'нясуны' на мяса- й мясакансэрвавых камбінатах. Яны спрычыняюць вельмі адчувальныя страты. Летась, прыкладам, было затрымана больш за тры тысячы працаўнікоў з крадзенай прадукцыяй. ... Нажаль, ніводзін 'нясун' ні адміністрацыяй ні сіламі грамадзкасьці затрыманы ня быў».

Наіўны Тарнаўскі: як-жа грамадзкасьць будзе затрымваць, калі грамадзкасьць — гэта й ёсьць «нясуны»? У якім-жа гэта грамадзтве была створаная пагаворка: «Не ўкрадзеш — не пражывеш»?..

### «ВЕЛЬМІ ХУТКАЕ» ПАШЫРЭНЬНЕ НАРКАМАНІІ

Паводля пракурора БССР Г. Тарнаўскага памыляюцца тыя пракуроры, хто прамоўчвае наяўнасьць гэткіх небясьпечных зьяваў, як наркаманія й прастытуцыя, «пераконваючы сябе ды іншых ў тым, што для нашага рэгіёну яны быццам-бы не характэрныя». «Нажаль, — прызнаецца галоўны пракурор БССР, — гэтае зло пашыраецца вельмі хутка». («Коммунист Белоруссии», 1987, № 10, б. 77).

### ВЯЛІКАЯ ПРОСЬБА

Вельмі просім перасылаць грошы на газэту *толькі ў амэрыканскай валюце*, а гэта таму, што перавод чэкаў зь іншай валюты ў амэрыканскую ня толькі каштуе вялікія грошы, але й спрычыняе справаводныя клопаты нялічным працаўніком выдавецтва. Таксама, калі ласка, не прысылайце банкнотаў у сваёй валюце, бо з выменаю іх на даляры зьвязаныя яшчэ большыя клопаты. Шчыра дзякуем за супрацоўніцтва. **Выдавецтва «Беларус»**